13 сакавіка 2020 | № 10 (669)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Як стварыць вірус?**
**Стар. 9**

**4 ШТО ПАЛОХАЕ МОЛАДЗЬ У БЕЛАРУСКАЙ АРМІІ?**

**У Беларусі ідзе веснавы прызыў у армію. Гэта другая прызыўная кампанія, якая ладзіцца паводле прынятага летам «закона аб адтэрміноўках»**

**5 НЕ ЗДАВАЦЦА І ІСЦІ НАПЕРАД**

**Калі прыходзіць бяда, мала хто здольны ўбачыць у ёй магчымасці для далейшага развіцця. Але філосаф, фермер, грамадскі і царкоўны дзеяч Мікола Матрунчык, хату якога днямі знішчыў пажар, у роспач не ўпадае**

**6–7 «Я ДОБРА ЎЯЎЛЯЮ, ШТО ТАКОЕ ЗЯМЛЯ, ВЕДАЮ ЯЕ НА СМАК, НА ДОТЫК»**



**Не так шмат сучасных беларускіх літаратараў, вядомых у свеце. Перакладчыца і паэтка Юлія Цімафеева — якраз адна з іх**

**10–11 ШЛЯХЕЦКІ РОД ЯЗЕРСКІХ**

**Адна з вуліц у цэнтры Гомеля з 1919 года носіць імя Мікалая Білецкага. Але мала хто ведае, што гэты савецкі герой быў... дваранінам і сынам царскага генерала!**

# «Чорныя панядзелкі» і беларускі выбар



Сяргей ПУЛЬША

**«Чорны панядзелак» падняў беларусаў на нервы. Некаторыя пачалі казаць пра дэвальвацыю, як у 2014 ці нават у 2011 годзе. Паніка на рынках узнікла з-за ўсё той жа нафты, пра якую мы столькі ўжо казалі, што чуць пра яе не хочацца.**

Што адбылося? Адбылося моцнае падзенне цэнаў на нафту з-за таго, што не было дасягнутае пагадненне паміж Расіяй і АПЕК. АПЕК намагалася абмежаваць здабычу сыравіны. Расія і Казахстан, які да яе далучыўся, на такое абмежаванне не пагадзіліся.

У выніку ўжо ў пятніцу кошт барэля нафты знізіўся да 45 долараў. У суботу дзяржаўная нафтавая кампанія Саудаўскай Аравіі Saudi Aramco абвясціла беспрэцэдэнтнае зніжэнне цэнаў на сваю прадукцыю для кліентаў на ўсіх рынках. Партыі гатунка Arab Light з адгрузкай у красавіку патаннелі на 6 долараў для Азіі, на 7 долараў — для ЗША і на 8 долараў — для Еўропы, дзе саудаўская нафта канкуруе з расійскай Urals. І амаль адначасова заявіла пра павелічэнне здабычы сыравіны да 10–11 мільёнаў барэляў у суткі супраць 9,7 мільёна цяпер.

Да таго ж у справы ўлез той самы, што таксама ўжо набіў аскому, каронавірус. З-за хваробы ў свеце ўводзяцца каранціны, спыняюцца прадпрыемствы (асабліва ў Кітаі), адмяняюцца авіярэйсы. Адпаведна — не маецца патрэбы ў паліве і сыравіне. То-бок, попыт на нафту зніжаецца натуральным чынам, тым самым зніжаючы кошт.

Як вынік — ф'ючарсныя цэны барэля нафты знізіліся да крытычнага паказніку ў 30 долараў.

Апошні раз такія кошты былі ў 1991-м — годзе, калі развалiўся СССР. Некаторыя эксперты кажуць, што танная нафта стала ці не апошнім штуршком, які запусціў працэс гэтага развалу.

Беларусі, нібыта, павінна быць добра, што кошты на нафту ўпалі ніжэй за плінтус. Прынамсі, цяпер Аляксандр Лукашэнка з поўным правам можа казаць, што Расія хацела прадаваць нам нафту па коштах, вышэйшых за сусветныя. Да таго ж цяпер сапраўды нягегла выглядаюць патрабаванні расійскіх пастаўшчыкоў сыравіны наконт нейкай «прэміі» за пастаўкі таннай нафты ў Беларусь. Бо яна сама па сабе — танней няма куды. А «прэміі» апошнім часам і былі асноўным пытаннем спрэчак.

Але тое, што карысна Лукашэнку, не азначае карысці для краіны. Танная нафта цалкам лагічна вядзе да таго, што таннеюць і нафтапрадукты — ці не асноўны наш экспартны тавар. Танныя нафтапрадукты — менш валюты ад экспарту, менш паступленняў у бюджэт.

Пры гэтым сітуацыя зусім не азначае, што ў Сінявокай стане больш танным бензін. Па меркаванні, напрыклад, эканаміста Барыса Жалібы, канцэрн «Белнафтахім», наадварот, заявіць, што «ў час крызісу нашым нафтаперапрацоўчым прадпрыемствам патрэбная падтрымка», і кошт паліва будзе расці, а не зніжацца.

Мы аказаліся ў дзіўнай рэальнасці, калі і дарагая нафта — кепска, і танная — таксама кепска.

Але больш за ўсё ў гэтай сітуацыі нас павінны непакоіць паводзіны «стратэгічнага партнёра» — Расіі. Туды мы адпраўляем каля 60% нашага экспарту, а па некаторых пазіцыях




Фота www.vesfin

(напрыклад, па сельскай гаспадарцы) і ўвогуле 90%. Даходы ж Расіі амаль цалкам завязаныя на газ і нафту — таму любы істотны скачок ці падзенне коштаў на сыравіну імгненна адбіваецца на расійскім рублі. Падае кошт нафты — падае і расійскі рубель, а значыць, узрастае кошт беларускіх тавараў. А калі беларускія тавары істотна даражэюць, іх, зразумела, перастаюць набываць. Зноў жа, падае экспарт — і ў выніку падае беларускі рубель.

У нас не адбылося паўнавартаснага «чорнага панядзелка» толькі таму, што ён прыпаў на 9 сакавіка. Па расійскім працоўным раскладзе гэты дзень быў выходным — за 8 сакавіка, які быў у нядзелю. Біржы і банкі там не працавалі напоўніцу, і ў нечым гэта нівелявала паніку, дало расійскаму Цэнтрабанку час на рэакцыю: магчымасць супакоіць насельніцтва і выдаткаваць з рэзерваў валюту для «папераджальнага продажу на ўнутраным рынку» дзеля стабілізацыі сітуацыі «і зніжэння валацільнасці фінансавых рынкаў ва ўмовах значных зменаў на сусветным рынку нафты».

**І дарагая нафта — кепска, і танная — таксама кепска**

То-бок, ад глабальнага падзення беларускі рубель (як і расійскі) уратаваў выключна шчаслівы збег абставінаў і датаў.

Што будзе ў эканоміцы надалей? Гэта, безумоўна, залежыць ад таго, наколькі ўстойлівым будзе час «таннай нафты» і на колькі ён зацягнецца. У аўторак цана нафты крыху адыграла панядзелкавы абвал і склала 37 долараў за барэль, што ўсё роўна нізка. Вядомы фінансавы аналітык Вадзім Іосуб сцвярджае, што пік уздзеяння падзення нафтавых коштаў мы адчуем месяцы праз тры-чатыры. У любым выпадку, беларуская ўлада, што б ні казаў Нацбанк, будзе трымаць айчынную валюту ад маштабнага падзення — прынамсі, да прэзідэнцкіх выбараў. А вось што далей…

Па розуме, нам трэба пераходзіць ад «нафтавай» эканомікі да інавацыйнай. Аднак такі пераход наўрад ці магчымы без правядзення рэальных рынкавых рэформаў і структурнай перабудовы эканомікі. А гэта — міна запаволенага дзеяння пад рэжым асабістай улады Аляксандра Лукашэнкі.

Без рэформаў жа мы вырачаныя на далейшыя «чорныя панядзелкі». І зноўку ва ўлады атрымліваецца тая рэальнасць, дзе «і так кепска, і так кепска». Але ж некалі выбар зрабіць давядзецца. І чым раней — тым лепш.

# Збітая АМАП дзяўчына: Акрамя вас я амаль нікому не патрэбна

**Тры гады таму жыццё 19-гадовай Яны Чуліцкай рэзка змянілася. Падчас затрымання на акцыі пратэсту на Дзень Волі яе моцна ўдарыў па галаве міліцыянт, і ўжо праз тыдзень у дзяўчыны пачаліся першыя прыступы эпілепсіі. Міліцыянт да гэтага часу застаецца беспакараным, а здароўе Яны на працягу гэтых трох гадоў пастаянна пагаршаецца.**

25 сакавіка 2017 года тады яшчэ непаўнагадовую Яну Чуліцкую (да вяселля яна насіла прозвішча Яцыновіч) разам з сяброўкай Дашай затрымаў АМАП, калі яны выйшлі са сталічнага парку Чалюскінцаў на праспект Незалежнасці. У той дзень у Мінску праходзіла несанкцыянаваная акцыя на Дзень Волі.

Дзяўчыну, схапіўшы за валасы, з ужываннем грубай фізічнай сілы зацягнулі ў аўтобус, дзе адзін з праваахоўнікаў некалькі разоў моцна стукнуў яе ў вобласць патыліцы.

Праз тыдзень у Яны пачаліся праблемы са здароўем: млоснасць, ваніты, галаўныя болі. Яна стала часта падаць. Пасля шматлікіх абследаванняў было ўстаноўлена, што ў Яны развілася эпілепсія. Былі пастаўленыя дыягназы: функцыянальны ніжні парапарэз і падазрэнне на глаўкому. З тых часоў абследаванні не спыняюцца, дзяўчына рэгулярнаназіраецца ў лекараў.

Толькі праз год пасля здарэння бацькі Яны звярнуліся з заявай аб прычыненні цялесных пашкоджанняў супрацоўнікамі органаў унутраных спраў у Першамайскі раённы аддзел Следчага камітэта, патрабуючы знайсці і пакараць вінаватых. У выніку ўжо некалькіх праверак следчыя не знаходзяць прычынна-следчых сувязяў паміж эпілепсіяй Яны і нанясеннем ёй удараў па галаве.

З мінулага лета Яне двойчы адмаўлялі ва ўзбуджэнні крымінальнай справы супраць амапаўцаў, якія яе затрымлівалі. Следчыя не знайшлі вінаватых, хоць Яна прадставіла відэа, дзе відаць аднаго з міліцыянтаў, а таксама чутны голас другога — таго, які ўдарыў дзяўчыну. Следчыя накіравалі запыт у ГУУС для пошуку гэтых супрацоўнікаў, але там ніякага адказу не далі. На гэтым СК спыніў «пошукі».

Літаральна на мінулым тыдні Яна з адвакатам накіравалі ў пракуратуру чарговую скаргу на адмову ва ўзбуджэнні крымінальнай справы.

Таксама Яна сцвярджае, што пасля таго, як яе медыцынская картка пабывала ў следчых, адтуль зніклі асобныя старонкі. У прыватнасці, тая старонка, дзе неўролаг пісала аб траўме (ЧМТ), атрыманай 25 сакавіка 2017 года.

За апошні год здароўе Яны пагоршылася. Паводле яе словаў, раней у яе здаралася каля чатырох прыступаў эпілепсіі на тыдзень. А цяпер — па шэсць-сем. Прычым за дзень ці за ноч можа быць некалькі прыступаў. З-за хваробы ў яе псуецца зрок, развілася міякланія, Яна моцна страціла вагу.

Практычна кожны месяц дзяўчыне неабходна купляць дарагія лекі. Па словах Яны, часам яны выклікаюць пабочныя дзеянні і, адпаведна, гэта патрабуе набыцця іншых падтрымліваючых прэпаратаў. З-за частых удараў галавой з-за прыступаў у яе пагаршаецца зрок, што патрабуе рэгулярнага абследавання ў акуліста. Такім чынам, за месяц на лячэнне Яна марнуе каля 300 рублёў, а часам і больш.

У хуткім часе Яна страціць працу. На працы ў яе ўсё ішло добра да таго часу, пакуль у яе не здарыўся прыступ на кухні (гэта яе працоўнае месца). Акрамя таго, з-за міякланіі бывала, што ў яе выпадалі прадметы з рук. Пасля прыступу кіраўнік сказаў Яне, што хутка яе будуць звальняць па стане здароўя.

У далейшым Яна хацела б працаваць зноў, але пакуль не ведае, у якой сферы. Яе неўролаг кажа, што з такой частатой прыступаў гаворка можа ісці толькі пра аддаленую працу. Палегчыць сітуацыю Яны магло б афармленне групы інваліднасці, але, па яе словах, лекары з гэтым пытаннем зацягваюць ды адпраўляюць яе на дарагія абследаванні.

Увесь гэты час Яну падтрымліваюць сябры. Часам ёй дапамагаюць бацькі, хоць ім гэта вельмі складана (яны жывуць і працуюць у пасёлку). Але ў асноўным выдаткі на лячэнне кладуцца на саму дзяўчыну. Кожны жадаючы можа перавесці грошы на лячэнне Яны Чуліцкай на яе банкаўскую карту. Яна будзе ўдзячная за любую дапамогу ўсім неабыякавым.

**Рэквізіты для збору сродкаў на лячэнне Яны Чуліцкай:**
**4255 2003 0230 5602; 06/22; CHULITSKAYA YANA (VISA BELARUSBANK)**

**spring96.org**

# «Дырэктару цукровага завода веру, а Лукашэнку — не!»

Зінаіда ЦІМОШАК

**У сюжэце беларускага дзяржаўнага тэлеканала гаварылася, што «даходы цукровай мафіі вылічаліся мільёнамі долараў». Многія жыхары Слуцка не вераць у версіі беларускіх улад. Мы пацікавіліся, чаму.**

Анатоль Купрыяненка, былы дырэктар Слуцкага цукровага завода, які аддаў заводу больш за 30 гадоў, папярэднік арыштаванага Мікалая Прудніка, асцярожна выказваецца, што трэба пачакаць завяршэння следства, каб гаварыць пра ступень вінаватасці цяперашняга кіраўніка прадпрыемства. Аднак выказаў павагу да затрыманага дырэктара:

— Мікалай Пятровіч Пруднік узначаліў прадпрыемства пасля майго сыходу на пенсію, — распавёў Анатоль Купрыяненка. — Вельмі кваліфікаваны кіраўнік, імкнуўся развіваць вытворчасць. Па тэхніка-эканамічных паказчыках завод пад яго кіраўніцтвам стаў лепшым сярод аналагічных прадпрыемстваў ЕАЭС. На прадпрыемстве пануе высокая культура вытворчасці, якую можна назіраць на развітых еўрапейскіх заводах.

Цукровы завод з'яўляецца горадаўтваральным прадпрыемствам. Для яго характэрны высокі заробак, наяўнасць поўнага сацыяльнага пакета, адсутнасць цякучкі кадраў.

— Прадаваць дарагі беларускі цукар у Расію нявыгадна, бо там хапае свайго, больш таннага, — тлумачыць сітуацыю са зніжэннем коштаў на цукар пры продажы ў Расію адмысловец. — Расійскія прадпрыемствы атрымліваюць танны газ, там ёсць і іншыя магчымасці, якія адсутнічаюць у беларускіх прадпрыемстваў. Цяжка рэалізоўваць цукар і ў іншыя краіны, бо сусветны рынак завалены танным трысняговым цукрам — у разы таннейшым, чым з буракоў.

Як вядома, у беларускіх крамах цэны на цукар рэгулююцца дзяржавай: цукар каштуе 1,5 беларускіх рубля. Атрымліваецца, што прадаваць танней яго нельга, а цукру выраблена шмат.

У 2019 годзе сітуацыя аказалася такой, што ў расійскіх крамах кілаграм цукру каштаваў 86 беларускіх капеек, а ў беларускіх — 1,54 беларускіх рублёў, прычым гэта мог быць адзін і той жа цукар.

Сам кіраўнік краіны, дарэчы, калі 17 лютага 2018 года наведаў Слуцкі цукровы завод, высока ацаніў яго працу і назваў яго лепшым у цукровай галіне.

Відавочна, што і ўнутраных і вонкавых праблем у цукровай галіне ўзнікла шмат і, каб не ўтапіцца ў іх, дырэктарам цукровых камбінатаў прыходзілася шукаць розныя схемы для забеспячэння прыбытковасці прадпрыемстваў.

— Мы ведаем пра нялёгкую сітуацыю са збытам прадукцыі, і мы ганарыліся тым, што нашаму заводу ўдавалася атрымліваць нават значны прыбытак, — гаворыць адна з работніц завода. — Я атрымлівала 800 рублёў за сваю працу, для Слуцка гэта немалы заробак. Увосень выдавалі грошы на закупку садавіны і гародніны, рабочыя мелі розныя дадатковыя прэміяльныя выплаты, дапамогу на лекаванне.

Жанчына гаворыць пра заробкі і прэміяльныя, выкарыстоўваючы дзеясловы мінулага часу, нібыта не верыць у будучыню завода без Прудніка.

— Нармальны пісьменны кіраўнік, строгі, не любіў п'яніц, але без гэтага нармальна працаваць нельга, — выказваецца мужчына, які таксама працуе на гэтым прадпрыемстве. — Паболей бы гэткіх, пры ім быў поўны парадак. Не веру, што карупцыянер. Катэдж у яго ёсць, але Слуцк зараз увесь акружаны катэджамі, больш велічнымі і багатымі. Дый катэджам гэты дом, які спалучаны з домам звычайнага рабочага, цяжка назваць.

— Лукашэнку я не веру, а Прудніку — веру, — выказала сваю думку аб магчымай карумпаванасці Мікалая Прудніка супрацоўніца Палаца моладзі, які знаходзіцца на балансе цукровага завода. — Зайдзіце ў кавярню пры нашым палацы, яна прыгожа аздобленая і выглядае як дарагая рэстарацыя. Там можна з'есці смачны абед усяго за 3 рублі. І ўсё гэта дзякуючы клопатам Мікалая Пятровіча пра людзей — каб прыстойна жылі і елі.

Цікава, што добрыя словы пра Мікалая Прудніка ў якасці дэпутата Мінскага абласнога Савета выказала і грамадская актывістка кампаніі «Наш дом» Тамара Блінова:

— Наша кампанія ініцыявала справаздачы дэпутатаў перад выбаршчыкамі. Пруднік правёў справаздачу. Да яго на дэпутацкія прыёмы прыходзіла шмат людзей. Не адмовіўся ён і ад асабістай сустрэчы, падчас якой распавёў і пра смешны выпадак: да яго звярнулася жанчына, якая прасіла памірыць з суседкай, бо суседка павінна была яго паслухацца з-за аўтарытэту сярод народа. Распавёў мне, што хадзіў пасля працы да гэтай суседкі, памірыў дзвюх старых жанчын. Не думаю, што дрэнны чалавек гэтым займаўся б.

Пакуль случчане чакаюць, чым скончыцца следства. Пачакаем і мы.

# Над людзьмі вісіць сякера галечы

Дзмітрый РАСТАЕЎ

**Ці даўно гэта было? Не, ну праўда? Калі, пачуўшы пра рост долара, уся краіна зрывалася з наседжанай канапы і неслася ў абменнікі, распакаваўшы на бягу скарбонкі і панчохі? Так, падаецца, не вельмі даўно. Апошні раз — у снежні 2014 года, калі зваліўся расійскі рубель.**

І вось надоечы ён упаў зноў. Але хіба нешта падобнае мы назіраем сёння? Хіба чэргі да абменнікаў цягнуцца на тры кварталы, як у 2009-м, а тым больш у 2011-м? Ды не, ніякага асаблівага ажыятажу не заўважана. Ва ўсялякім выпадку такога, як «пры Пракаповічу». Хаця долар вырас, і нядрэнна, і не факт, што на гэтым вырашыць спыніцца.

Дык што ж здарылася з беларусамі? Пяць гадоў, пражытых з кошыкам валют, адвучылі іх баяцца за родны «зайчык»? Прывучылі думаць, што як бы ні заносіла долар уверх, рана ці позна ён вернецца да «памяркоўных» значэнняў? Або чарговым разам спрацаваў псіхалагічны «эфект малых лічбаў», што накрыў Беларусь пасля дэнамінацыі 2016 года? Рост з 2,2396 да 2,3518 і праўда ж успрымаецца не так востра, як з 22,396 да 23,518.

А можа, Вадзіму Іосубу, які традыцыйна разжоўвае землякам любы форс-мажор у фінансавай сферы, нарэшце ўдалося давесці ім няхітрую думку, што позна бегчы ў абменнік, калі ўсё ўжо яснулася, і што раней трэба было «піць баржомі»? (Яшчэ б ведаць, калі надыходзіць гэта «раней»!)

Усё можа быць, але нешта падказвае мне, што ажыятажаў узору 2011 года ля абменнікаў не будзе і заўтра. І паслязаўтра. Нават калі долар кожны дзень будзе скакаць, як жаба на радыятары, а Джордж Вашынгтон на баксе загаворыць трасянкай і паабяцае ніколі больш не вярнуцца да адзнакі 2,2396.

Усё проста. Беларусам няма з чым бегчы ў абменнікі. Усё, заробленае імі сёння, адразу ж даводзіцца і марнаваць. Як бы беларусы не «карачыліся», як бы ні «варушыліся» па парадзе свайго мудрага правадыра, зарабіць столькі, каб хапала і на жыццё, і на скарбонку, яны ўжо не могуць. Ва ўсякім разе, большасць з іх.

Над людзьмі рэальна вісіць сякера галечы — якія ўжо тут абменнікі! Тут не да раскошы, тым больш не да збірання выяваў Вашынгтона.

Глыбока сімвалічна — вось жа іронія гісторыі! — што ўсё гэта адбываецца ў год чарговых перавыбараў нашага «мудраца», які давёў краіну да такога жыцця, і які працягвае весці яе з упартасцю Сізіфа — верагодна, да яшчэ больш «бліскучых» межаў. Зрэшты, гэтая песня ўжо не пра долар.

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Краіна парадоксаў

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Жыць у краіне парадоксаў не вельмі зручна, але цікава. Некаторыя навіны проста выклікаюць пытанне: «Як? Як такое можа адбывацца?»**



Фота www.belmir.by

Як вядома, колькі месяцаў цягнецца нафтавы канфлікт з Расіяй. Беларускія НПЗ пачыналі адбор тэхнічнай нафты з нафтаправодаў, атрымліваюць сыравіну літаральна «па кроплі». На мінулым тыдні, як мы паведамлялі, раз'юшаныя аўтааматары заявіліся пад офіс «Белнафтахіму» і запытваліся, да якіх часоў будзе даражэць бензін. Падавалася б, краіна павінна быць у рэжыме жорсткай эканоміі паліва, але…

Як паведамляе ўкраінскі сайт enkorr са спасылкай на «Кансалтынгавую групу А-95», беларускі імпарт бензіну ва Украіну ў студзені-лютым… вырас на 37 працэнтаў! I склаў ажно 105,6 тысяч тон. У мінулым годзе за той жа перыяд з Беларусі ва Украіну было ўвезена 77,2 тысячы тон бензіну. Пры гэтым пастаўкі паліва выраслі, нягледзячы на ўсе нашы нафтавыя праблемы! Ці не парадокс?

Канешне, самае лагічнае тлумачэнне гэтаму — надзвычай мяккая зіма. Узімку на вуліцах гарадоў мы вельмі рэдка бачылі снегаачышчальныя машыны і пасыпанне дарог рэагентамі. Адпаведна, мы зэканомілі даволі багата таго ж самага бензіну. I можам прадаць лішкі паліва суседзям, напэўна. Але тады ўзнікае лагічнае пытанне, чаму бензін для беларускіх пакупнікоў не таннее?

Таксама цікавая справаздача Нацбанку Беларусі пра імпарт-экспарт беларускіх тавараў у студзені гэтага года. Розныя эксперты заўважаюць, што цёплая зіма — гэта не толькі эканомія паліва, але і зніжэнне ВУП краіны за кошт не выраблена энергіі, не пастаўленых паслуг (тая ж расчыстка вуліцаў ад снегу) і гэтак далей. Ну і, плюс, набіўшае аскому скарачэнне паставак нафты на НПЗ.

Знешнегандлёвы абарот тавараў і паслуг за першы месяц года істотна знізіўся — на 13,8% да 5,1 мільярда долараў у параўнанні з аналагічным месяцам мінулага года. Экспарт тавараў і паслуг зменшыўся на 13,4% да амаль 2,7 мільярда долараў, а імпарт скараціўся на 14,2% да 2,4 мільярда долараў. Як бачым, знешнегандлёвае сальда склалася на карысць экспарту, і мы змаглі зарабіць 293,8 мільёна долараў.

Прычым, экспарт тавараў у нас упаў, а вось экспарт паслуг — павялічыўся. То-бок, зарабілі мы не за кошт вытворчасці, а за кошт паслуг. Гэта ўяўна паказвае, якая мадэль эканомікі больш зручная для краіны ў крызіс.

У той жа час былі апрылюдненыя дадзеныя па інфляцыі. За люты яна склала 1%. У студзені яна была 0,9%. У гадавым вымярэнні гэта ўжо складае 4,4%, а мэтавы паказчык па інфляцыі, вызначаны ў Асноўных напрамках грашова-крэдытнай палітыкі, складае не больш за 5% на канец года.

Варта зазначыць, што ў лютым індэкс коштаў на харчовыя тавары вырас на 0,7%, на нехарчовыя — на 0,5%, а на паслугі — на 2,3%.

Такім чынам, мы зарабляем на экспарце паслугаў, але ў той жа час растуць кошты паслугаў і ўнутры краіны. Але ці будуць у насельніцтва грошы, каб плаціць за падаражэлыя паслугі і надалей? Бо ўслед за дадзенымі па інфляцыі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны заявіла, што не збіраецца індэксаваць мінімальную зарплату і грашовыя даходы насельніцтва. Міністэрства спасылаецца на заканадаўства, па якім мінімальная зарплата і грашовыя даходы насельніцтва індэксуюцца ў выпадку, калі інфляцыя перавышае 5% з даты іх устанаўлення. Мінімальная зарплата ў Беларусі была ўстаноўленая з 1 студзеня. Бюджэт пражытачнага мінімуму апошні раз усталёўваўся 1 лютага. Адпаведна, інфляцыя за названы перыяд не перавысіла парога ў 5%.

У той жа час нашы чыноўнікі ніяк не збіраюцца крыўдзіць сябе, любімых. На сайце «Зручны горад» была апублікаваная петыцыя, у якой патрабавалі прывязкі зарплаты чыноўнікаў да сярэдняй па краіне. Прапанавалася, каб зарплаты старшыняў райвыканкамаў былі роўныя сярэдняй па раёне; старшыняў аблвыканкамаў — сярэдняй па вобласці; міністраў і кіраўніка дзяржавы — сярэдняй па краіне, а заробак дэпутата ўсталёўваўся б у памеры сярэдняга па выбарчай акрузе. Такую ініцыятыву падтрымалі больш за 1100 чалавек.

Міністэрства фінансаў палічыла такую просьбу, канешне ж, «немэтазгоднай». Маўляў, «дыферэнцыяцыя заработнай платы ажыццяўляецца ў залежнасці ад складанасці і напружанасці працы, узроўню кваліфікацыі работнікаў. Для кожнай пасады вызначаны канкрэтныя ўмовы аплаты працы», — напісаў у адказе сваё меркаванне намеснік міністра фінансаў Юрый Селіверстаў.

Як вынікае з адказу, «дзеючая цэнтралізаваная сістэма аплаты працы дзяржаўных служачых выбудаваная па ўсіх катэгорыях работнікаў, і змяненне памеру заработнай платы кіраўнікоў органаў дзяржаўнага кіравання (на ўзроўні сярэдняй зарплаты па краіне, вобласці, раёну, выбарчай акрузе) аўтаматычна прывядзе да змены яе памераў для ўсіх работнікаў дзяржаўных органаў, што ўяўляецца немэтазгодным і не можа быць падтрымана».

Па-мойму, у тым і была сутнасць петыцыі, каб змяніць памер заробку «для ўсіх работнікаў дзяржаўных органаў», як піша Селіверстаў. Каб тыя заробкі залежалі не ад «складанасці і напружанасці працы», а ад эфектыўнасці гэтай працы. Пра эфектыўнасць жа ў адказе Мінфіна — ані слова. I таму нашым чыноўнікам можна і надалей колькі заўгодна «напружвацца», але — без усялякага поспеху.

I яшчэ адна цікавая навіна паступіла з Польшчы. Наша суседка пачала бясплатна выдаваць візы маладым грамадзянам Беларусі. Новы парадак выдачы шэнгенскіх візаў пачаў дзейнічаць 29 лютага і будзе доўжыцца да 31 снежня 2020 года. Ён тычыцца дзяцей ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў і маладых людзей да 25 гадоў, якія ўдзельнічаюць у мерапрыемствах некамерцыйных арганізацый — семінарах, канферэнцыях, адукацыйных, культурных і спартыўных мерапрыемствах. Гэтыя катэгорыі заяўнікаў вызваляюцца ад выплаты візавага збору пры афармленні шэнгенскіх візаў у польскіх консульствах на тэрыторыі Беларусі.

То-бок, выехаць за мяжу з Беларусі праз польскія консульствы для моладзі будзе значна танней і прасцей. Цікава, колькі маладых беларусаў скарыстаюцца гэтым, улічваючы наш новы закон пра вайсковую службу і скасаванне адтэрміновак ад яе для атрымання адукацыі?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Дзмітрый Паліенка

**Палітвязень не здолеў трапіць на пасяджэнне па разглядзе сваёй жа апеляцыі ў Вярхоўным Судзе. Але Вярхоўны Суд мяркуе, што ён проста не пажадаў гэтага рабіць!**

Нагадаем, 14 лютага Вярхоўны Суд разгледзеў апеляцыйную скаргу на прысуд Мінскага гарадскога суда. Сам Паліенка ў пасяджэнні ўдзел не прыняў, бо супрацоўнікі аховы яго не прапусцілі з-за нашыўкі «Free Emelianov» на яго вопратцы. Паліенка напісаў скаргу ў ВС і Дэпартамент аховы МУС. У адказе на скаргу суд заявіў, што, аказваецца, актывіст «сам вырашыў адмовіцца ад удзелу ў судовым пасяджэнні».

«Згодна з запісам камер відэаназірання ў пазначаны дзень пасля праходжання надгляду Вы былі прапушчаны паставым міліцыянтам у будынак Вярхоўнага Суда, затым заявілі аб адмове ад удзелу ў пасяджэнні і пакінулі будынак суда», — гаворыцца ў адказе.

Паліенка настойвае, што прайсці ў залу пасяджэння ён не меў магчымасці. «Мне казалі: ты не пройдзеш, калі нашыўку не здымеш. Я адмаўляўся яе здымаць, бо ў законе няма ніякага дрэс-коду. Яны ставілі ўмову: альбо я яе здымаю і праходжу, альбо не праходжу ў прынцыпе. У выніку я сказаў, што не буду тут удзельнічаць», — распавёў актывіст.

Відэа гэтага інцыдэнту размясціў на сваім youtube-канале блогер Дзмітрый Казлоў. На ім бачна, што міліцыянты патрабуюць ад Паліенкі нават зняць кашулю з бэджам.

## Сяргей Калякін



**Старшыня Партыі левых «Справядлівы свет» не выключае, што ён будзе балатавацца на пасаду кіраўніка краіны на сёлетніх выбарах.**

Як паведаміў Калякін у інтэрв'ю «Народнай Волі», яго партыя актыўна фарміруе ініцыятыўныя групы пад магчымага партыйнага кандыдата на прэзідэнцкую пасаду. Вынікі гэтай працы збольшага будуць вядомыя 19 кастрычніка — гэта тэрмін фарміравання асноўнай ініцыятыўнай групы. Але працэс будзе працягвацца, таму што, на думку Калякіна, дату прэзідэнцкіх выбараў абвесцяць прыкладна ў канцы красавіка.

Што тычыцца складанасцяў па зборы 100 тысяч подпісаў, неабходных для вылучэння кандыдата ў прэзідэнты, то, па словах Калякіна, «не партыя збірае подпісы». «У нас у Оршы партыйная арганізацыя — 35 чалавек, а ў ініцыятыўную групу запісаліся 140. Пытанне не ў партыі, а ў колькасці людзей, уцягнутых у збор подпісаў. Калі ў кандыдата ініцыятыўная група будзе каля 5000 чалавек, ёсць шанец сабраць подпісы. Калі 10000 чалавек — гэта ўжо амаль 100 працэнтаў, што збяруць. А калі ініцыятыўная група 100000 чалавек, то і праблем не ўзнікне», — разважае Калякін.

Менавіта таму, па словах Калякіна, партыя паставіла на першае месца не вылучэнне кандыдатуры на прэзідэнцкую пасаду, а фарміраванне ініцыятыўнай групы. «Мы хочам пагладзець, наколькі людзям гэта цікава, ці будуць яны адгукацца. I да пачатку выбараў мы ўжо прыкладна будзем ведаць, якую колькасць подпісаў можам сабраць».

## Ганна Косцева



**Сястра асуджаных да смяротнага пакарання Іллі і Станіслава Косцевых просіць падпісаць петыцыю да Лукашэнкі аб памілаванні асуджаных і замене ім прысуду на пазбаўленне волі або пажыццёвае зняволенне.**

Нагадаем, 10 студзеня Магілёўскі абласны суд вынес смяротныя прысуды ў дачыненні да двух братоў — 19-гадовага Станіслава і 21-гадовага Іллі Косцевых. Еўрасаюз і Савет Еўропы асудзілі вынесеныя смяротныя прысуды і чарговым разам заклікалі ўлады Беларусі ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне.

У петыцыі Ганна Косцева піша: яна разумее, што яе браты здзейснілі непапраўнае злачынства, але просіць Лукашэнку праявіць міласэрнасць да іх і захаваць жыццё, паколькі ў яго ёсць на гэта ўлада і правы. Прадстаўнікі грамадскасці і праваабаронцы далучыліся да петыцыі і просяць праявіць гуманізм і замяніць вынесеныя смяротныя прысуды на доўгія тэрміны пазбаўлення волі або пажыццёвае зняволенне.

# Што палохае моладзь у беларускай арміі?

Павел КІРЫЛАЎ

**У Беларусі ідзе веснавы прызыў у армію. Гэта другая прызыўная кампанія, якая ладзіцца паводле прынятага летам «закона аб адтэрміноўках». Людзі працягваюць на яго наракаць, шэраг грамадскіх ініцыятываў — пратэставаць, бо новыя правілы прызыву могуць паспрыяць уцечцы маладых мазгоў і рук за мяжу. Улады наўздагон непапулярнаму закону прынялі шэраг заканадаўчых зменаў дзеля заахвочвання тых, хто адслужыць. Ці дапаможа гэта зрабіць службу ў войску больш прывабнай і прэстыжнай?**



Гаворка пра нашумелы закон, які афіцыйна гучыць так — «Аб змяненні законаў па пытаннях эфектыўнага функцыянавання ваеннай арганізацыі дзяржавы». Паводле прэс-службы кіраўніка краіны, дакумент «прыняты ў мэтах падтрымання пастаяннай баявой гатоўнасці Узброеных Сіл ва ўмовах актывізацыі ваеннай дзейнасці ў свеце і Еўропе». Акрамя таго, «існуюць аб'ектыўныя дэмаграфічныя праблемы: істотна зменшылася колькасць маладых людзей прызыўнога ўзросту». У той жа час «колькасць катэгорый грамадзян, якія ў адпаведнасці з заканадаўствам не прызываюцца на тэрміновую вайсковую службу або службу ў рэзерве (цяпер гэта 76 катэгорый), з'яўляецца найбольшай на постсавецкай прасторы і ў краінах далёкага замежжа».

## Льготы да «закона аб адтэрміноўках»

Самы рэзанансны пункт гэтага закона звязаны з адтэрміноўкамі маладым людзям дзеля працягу вучобы. Таму па-абывацельску ён і завецца «законам аб адтэрміноўках». Сутнасць: адтэрміноўка ад прызыву на вайсковую службу для працягу адукацыі будзе прадстаўляцца цяпер толькі адзін раз. Гэта значыць, што, калі малады чалавек атрымае прафесійна-тэхнічную адукацыю, то перад тым, як паступіць у ВНУ, ён павінен адслужыць у арміі. Тое самае тычыцца выпускніка ўніверсітэта, які захоча працягнуць вучобу ў аспірантуры.

Канстытуцыйны суд разгледзеў «закон аб адтэрміноўках», але незадаволенасці многіх грамадзян не падзяліў. У яго ным рашэнні гаворыцца, што пры прыняцці дакумента заканадаўца «сыходзіў з неабходнасці дасягнення разумнага і справядлівага балансу паміж мэтамі, з аднаго боку, падрыхтоўкі высокакваліфікаваных кадраў для патрэбаў грамадства і дзяржавы», а з другога — «забеспячэння нацыянальнай бяспекі і абараназдольнасці краіны, укамплектавання Узброеных Сілаў, іншых войскаў і воінскіх фарміраванняў асабовым складам, неабходным для эфектыўнага рашэння задач па абароне Айчыны».

«Прадстаўленне адтэрміноўкі для працягу адукацыі не азначае вызвалення ад вайсковай службы па прызыве, а датычна асобаў, якія падлягаюць прызыву, не парушае іх канстытуцыйнага права на адукацыю, паколькі не замахваецца на саму сутнасць дадзенага права і не прыводзіць да страты яго асноўнага зместу», — заявіў Канстытуцыйны суд.

Наўздагон непапулярнаму закону ўлады прынялі шэраг заканадаўчых ільготаў для тых, хто адслужыць. Яны пачалі дзейнічаць з зімы. Напрыклад, за тымі, хто служыў у войску, пасля вяртання з яго цягам трох месяцаў будзе захоўвацца працоўнае месца або прадстаўляцца новая пасада, незалежна ад формы ўласнасці наймальніка. Раней гэта тычылася толькі дзяржустаноў. Студэнты і навучэнцы пасля армейскай службы атрымаюць першачарговае права на месца ў інтэрнаце. Нарэшце, тэрміновая вайсковая служба будзе ўключацца ў страхавы працоўны стаж. А яшчэ адслужылыя маюць першачарговае права на выбар месца працы пры размеркаванні (для гэтага патрэбныя рэкамендацыі воінскіх частак).

**«Не будзе малады чалавек ахвяраваць сабой дзеля інтарэсаў дзяржавы, якая яго інтарэсы ні ўва што не ставіць, тым болей у беларускай арміі. Яе прэстыж знішчаны, а суіцыды там здараюцца часцей, чым у турмах»**

## «Скаліёзнікі», зважай!

Калі прымаўся «закон аб адтэрміноўках», прэс-служба кіраўніка краіны адзначала, што ён захоўвае адтэрміноўкі па стане здароўя. Аднак праз некалькі месяцаў адбыліся непрыемныя змены для патэнцыйных прызыўнікоў і тут. У выніку веснавы прызыў, які ідзе цяпер, больш жорсткі па ўмовах, чым восеньскі. У пачатку гэтага года Мінабароны і Міністэрства аховы здароўя прынялі пастанову з «Інструкцыяй па вызначэнні патрабаванняў да стану здароўя грамадзян, звязаных з воінскім абавязкам». Яна замяніла ранейшую аналагічную пастанову, датаваную 2010 годам. Па-абывацельску гэтыя дакументы называюцца «Раскладам хваробаў».

Асноўнае адрозненне паміж пастановамі ў тым, што вялікі шэраг дыягназаў, паводле якіх хлопцы прызыўнога ўзросту прызнаваліся непрыдатнымі для службы ў войску, цяпер сталі цалкам сабе прымальнымі для армейскай падрыхтоўкі, распавядаюць у Цэнтры правоў прызыўніка.

Напрыклад, цяпер салдатамі могуць зрабіцца тыя, у каго: скаліёз другой ступені з вуглом скрыўлення 11–17 градусаў, атлусценне другой ступені з індэксам масы цела 35–36,9, дэфармавальны артроз у адным з буйных суставаў (суставная шчыліна — 2–4 мм) з болевым сіндромам і без яго, перанесеная лазерная каагуляцыя пры перыферычнай дэгенерацыі сятчаткі вока, або не выкананая, але якая павінна быць выкананая па паказаннях, адзінкавыя камяні (памерам 5 мм) у нырках з прыступамі колікі, грыжы стрававоаднай адтуліны дыяфрагмы першай і другой ступеняў і гэтак далей.

Стала менш магчымасцяў атрымаць адтэрміноўку па стане здароўя на тэрмін да 12 месяцаў. Напрыклад, калі вам была зроблена лазерная карэкцыя зроку 3–5 месяцаў таму, то давядзецца ісці служыць. Дарэчы, новыя медычныя правілы падчас прызыву датычаць і тых, хто быў прызнаны «нягодным» раней, калі патрэбна праходзіць пераасведчанне.

Атрымаць кансультацыі і дапамогу, звязаную з прызывам у армію, можна ў шэрагу арганізацыяў. Дзесьці бясплатна, як у згаданым Цэнтры правоў прызыўніка (povestka.by), дзесьці за грошы. Напрыклад, адна з арганізацый прапануе пакеты паслуг ад 400 да 2000 рублёў. Другая гарантуе вяртанне паловы грошай, калі не ўдасца зрабіцца нягодным для армейскай службы, трэцяя абяцае дапамогу ў абароне ад «незаконнага прызыву» каманды не толькі юрыстаў, але і дзейных вайскоўцаў.

Між тым, Мінабароны нагадвае пра адказнасць «за ўхіленне ад воінскага ўліку і мерапрыемстваў па прызыве на воінскую службу». Калі няяўка ў ваенкамат для прыпіскі да прызыўнога ўчастка пацягне за сабой штраф памерам да 3 базавых велічынь, то ўхіленне ад прызыву праз целашкодніцтва або сімуляцыю захворвання, або праз фальсіфікацыі дакументаў можа каштаваць да 5 гадоў пазбаўлення волі.

## Армейскія фобіі

Якія могуць быць сацыяльныя наступствы «закона аб адтэрміноўках» для краіны агулам? Ініцыятыва «Вучоба важнейшая» сярод іх называе скарачэнне колькасці магістрантаў і аспірантаў: «Гадавы перапынак зводзіць на нішто назапашаныя веды і матывацыю вучыцца далей. Адпаведна, менш вучоных, менш выкладчыкаў. А гэта значыць, навуковы патэнцыял Беларусі будзе знішчаны». Адзначаецца, што цяпер за мяжой вучацца каля 30 тысячаў беларусаў пры 260 тысячах студэнтаў у нашай краіне.

Пры пазбаўленні права на непарыўную адукацыю прагназуецца яшчэ большы ад'езд моладзі за мяжу: «Страта вялікай колькасці працаздольнай актыўнай часткі беларусаў. Эфектыўныя прадпрыемствы і арганізацыі будуць створаны беларусамі не ў сваёй краіне. Бюджэт Беларусі недаатрымае значныя сродкі ў выглядзе падаткаў». Між тым, у Генштабе Узброеных Сілаў Беларусі кажуць, што аб'ектыўных прычын, каб з'язджаць за мяжу праз гэты закон, не бачаць.

Што да арміі, то яе асабовы склад будзе дэмаралізаваны, прагназуюць актывісты: «Не будзе малады чалавек ахвяраваць сабой дзеля інтарэсаў дзяржавы, якая яго інтарэсы ні ўва што не ставіць, тым болей у беларускай арміі. Яе прэстыж знішчаны, а суіцыды там здараюцца часцей, чым у турмах».

Актывісты «Маладзевага блоку» распавялі «Новаму Часу» пра сваё апытанне болей як 2,5 тысячы маладых людзей наконт іх стаўлення да службы ў войску — ад фобіяў да матывацыяў. Вось, напрыклад, чаму хлопцы ва ўзросце ад 18 да 21 года не жадаюць служыць: перадусім праз верагоднасць дзедаўшчыны (трывога 62% апытаных), умовы жыцця (39%) і меркаванне, што ў войску мала ўласна ваеннай падрыхтоўкі (37%). Іншыя папулярныя адказы: забарона на карыстанне смартфонамі і ноўтбукамі, тэрмін службы (1 год і 1,5 года пры наяўнасці і адсутнасці вышэйшай адукацыі), савецкая ідэалогія.

А вось якія чыннікі могуць заахвоціць служыць.

Топ–3 адказаў: кароткі тэрмін службы — 6–9 месяцаў (53% апытаных), высокія грашовыя выплаты (40%), магчымасць пакідаць часць у выхадныя дні (38%). Іншыя папулярныя адказы — магчымасць паслужыць перыядамі па 2–3 месяцы, насычаная падрыхтоўка, наяўнасць відэакамераў у часцях, захаванне працоўнага месца і занясенне армейскай службы ў працоўны стаж (як мы вышэй напісалі, гэта дзяржава зусім нядаўна гарантавала).

«Моладзевы блок» — а яго прадстаўнікі спрабавалі балатавацца летась у Палату прадстаўнікоў — прапануе прадстаўляць адтэрміноўкі на кожную ступень адукацыі, увесці рэгулярныя звальняльныя на выхадных, дазволіць салдатам карыстанне мабільнікамі ў вольны час, стварыць беларускамоўныя падраздзяленні, усталяваць відэакамеры ў казармах, перапрацаваць дызайн ваеннай формы.

А што думаеце наконт «закона аб адтэрміноўках» і неабходных рэформах у арміі вы?

# Не здавацца і ісці наперад

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Калі прыходзіць бяда, мала хто здольны ўбачыць у ёй магчымасці для далейшага развіцця. Але філосаф, фермер, грамадскі і царкоўны дзеяч Мікола Матрунчык, хату якога днямі знішчыў пажар, у роспач не ўпадае, а плануе збудаваць на пажарышчы «Народную акадэмію беларускіх смакаў». Вы можаце дапамагчы!**

У вёсцы Караліна ў доме, збудаваным у 1950-х гадах, Мікола Матрунчык пражыў з сям'ёй каля 20 гадоў. Будынак быў дыхтоўны, некалі ён належаў дзядзьку спадара Міколы. Пры доме — гаспадарка, якую ён з задавальненнем паказвае. Па перыметры ўчастак засаджаны разнастайнымі дрэвамі, якія абараняюць яго ад вятроў. Да таго ж біяразнастайнасць дае ўстойлівасць, пры якой адны дрэвы дапамагаюць развівацца іншым, яны менш хварэюць і іх не трэба так апрацоўваць, як монакультурныя пасадкі.

Дрэвы, што растуць у садзе Матрунчыкаў, маюць сваё значэнне. Так, чатыры дубы пасадзілі чацвёра іх сыноў. Ёсць тут і палескі гатунак вішні, вядомы з XVII стагоддзя, і акацыі, і брызгліны, лістоўніцы, яблыні, тульпанавае дрэва, бук, ясень, парастак граба, які садзіў Якуб Колас у Мікалаеўшчыне, вязы з Зэльвы Ларысы Геніюш... І гэта толькі сад, а калі палічыць гарод ды свойскую жывёлу, якую трэба даглядаць, застаецца толькі здагадвацца, колькі сіл Мікола і Таццяна Матрунчыкі ўкладаюць у сваю гаспадарку.

**«Чалавечая падтрымка такая неацэнная, што і хацеў бы ўпасці ў роспач, але проста не маеш права. Трэба глядзець наперад. А калі жывеш на зямлі, бачыш, як з'яўляецца маладое жыццё, гэта таксама надае сіл, у горадзе такога не ўбачыш...»**

— Я гэта люблю. Калі ўсё робіш з любоўю, то цяжар не адчуваецца. Гэта не праца, а натхненне, — адказвае гаспадар.

Аднак натхненне парушыў пажар, які пятага сакавіка знішчыў дашчэнту дом Матрунчыкаў.

— Мы цяпер нячаста выязджаем у Мінск, раз на тыдзень, бо жывем пры гаспадарцы. Здарэнне адбылося акурат у той дзень, калі мы ад'ехалі. Дома была адна мая матуля. Яна пайшла ўзяць кіпню на каву, і бачыць, што ў суседнім пакоі ўсё палае.

Жанчына перажыла сапраўдны шок, на шчасце, яе паспелі вынесці з хаты мужчыны, што апынуліся ў гэты час побач з домам. Жытло занялося вельмі хутка, і калі прыехалі пажарныя, даху ўжо не было. На шчасце, агонь не закрануў суседнія гаспадарчыя пабудовы.

— Самі пажарныя здзіўляліся, што дом выгараў дашчэнту, але два пакоі, дзе былі нашы іконы, амаль што не закранула. Таму сама сабой напрошваецца нейкая містыка: можа, гэта нам дадзена для таго, каб адыйсці ад нейкіх рэчаў і пачаць штосьці новае? — разважае спадар Мікола.

У яго ўжо ёсць пэўныя ідэі, якія ён хацеў бы ўвасобіць. Сям'я Матрунчыкаў трымаецца прынцыпаў пермакультурнага гаспадарання (ён грунтуецца на ўзаемасувязях натуральных экасістэм), стварае на сваім участку біяразнастайнасць, трымае курэй, трусоў. Таксама спадар Мікола захапляецца традыцыйнай беларускай ферментаванай кухняй. Таму на сваёй гаспадарцы, якую спадзяецца адрадзіць, ён хоча стварыць своеасаблівую прастору ці творчую майстэрню па зборы і распаўсюдзе забытых традыцыйных смакаў — «Народную акадэмію беларускіх смакаў».

— Я хоць і жыў у Мінску доўгі час, але самымі «смачнымі» ў мяне засталіся ўспаміны з дзяцінства — прыгатаваныя ў печы стравы, каўбасы, сальцісоны, кумпякі ўласнага вырабу. Але важна ўсё гэта не толькі спажываць, але і захоўваць. Бо народныя смакі губляюцца, кожнае пакаленне «падсаджваецца» на новыя смакі. Традыцыйныя ж смакі з'яўляюцца своеасаблівай культурнай каштоўнасцю. Бо можна збіраць нейкія рэчы, артэфакты, а як збіраць смакі? Іх класіфікацыя яшчэ не распрацаваная: ёсць салодкі, горкі, кіслы, салёны — і ўсё. Калі знікнуць нашыя смакі — знікне частка жыцця.

Мікола Матрунчык прыйшоў да высновы, што ў харчаванні сучасных людзей не хапае ферментаванай ежы. Тым часам многія народы (і беларусы — не выключэнне) маюць яе ў сваёй традыцыі. Паўночныя народы квасяць рыбу, японцы робяць рыс місо, у нас жа квасілі яблыкі, агуркі, зялёныя памідоры...

— Людзі папаўнялі запасы сваіх ферментаў, якія можна было аднавіць у арганізме толькі такім чынам, — тлумачыць гаспадар. — Адзін з паказчыкаў каштоўнасці прадукту — яго кіслінка: кіслы дражджавы хлеб, кіслае сухое віно, кіслая капуста. Гэта значыць, пэўныя рэчывы прадуктаў ператвараюцца ў шматлікія ферменты, якія чалавек губляе цягам жыцця. Праз гэта прыходзіць старасць і хваробы, бо абмен рэчываў у арганізме адбываецца не так, як трэба.

Мікола Матрунчык мяркуе, што ў яго творчай майстэрні кожны зможа прыехаць, паўдзельнічаць у ферментаванні і, канешне ж, пакаштаваць ферментаваныя прадукты. Безумоўна, людзі, якія цяпер падзяляюць бяду з сям'ёй, заўжды будуць жаданымі гасцямі на гаспадарцы.

— Дзякуючы гэтай ідэі і падтрымцы людзей адрастаюць крылы, — прызнаецца Мікола Матрунчык.

Ён мяркуе, што яго задумка, апроч іншага, будзе мець грамадскае і сацыяльнае значэнне, паспрыяе самазанятасці на вёсцы.

Падмацоўвае спадара Міколу ў яго памкненнях яшчэ і тое, што падчас пажару ў хаце згарэлі амаль усе кніжкі, але дзве, прысвечаныя ферментацыі, захаваліся. Яшчэ сярод рэчаў, якія вытрымалі выпрабаванне агнём, застаўся дубовы кубак, выкананы майстрам. Паплавіліся многія металічныя рэчы, а дрэва — выстаяла.

Першы шок ад пажару ў гаспадароў ужо прайшоў. Мікола Матрунчык кажа, што, пэўна, праз тое, што яны не бачылі, як агонь знішчае іх рэчы, не засталося моцнага цяжару ад таго, што на вачах знікае частка жыцця.

— Чалавек зліваецца з рэчамі, сярод якіх жыве, яны становяцца часткай яго ментальнасці. У хаце можна было з заплюшчанымі вачыма знайсці, дзе што стаіць. Але разам з тым я сёння адчуў іншае. У мяне згарэў абутак, і муж Таццяны Процькі Дзмітрый прывёз мне свой. Надзяваючы яго, я нібыта зрастаюся з гэтым чалавекам. Таму я стараюся ўспрымаць, што развітваюся са сваімі рэчамі, бо наперадзе новая мара, — з усмешкай кажа гаспадар.

Ён жартуе, што дзеля такога стаўлення да сітуацыі варта было вучыцца на філосафа — адпаведная адукацыя дапамагае яму перажыць стрэс.

Пакуль гаспадары жывуць на печы ў летняй кухні, маці спадара Міколы забралі ў Мінск. Згарэлы дом трэба будзе зруйнаваць, бо пах гару з яго ўжо не выветрыцца. Потым трэба будзе будаваць новы дом — яго праект зробіць архітэктар Вадзім Гліннік.

Мікола Матрунчык кажа, што ўражаны той падтрымкай, якую сям'я атрымала і працягвае атрымліваць з першага дня пасля здарэння. Сябры праваслаўнага Брацтва Віленскіх мучанікаў, што дзейнічае пры мінскім Свята-Петра-Паўлаўскім саборы і ў раду якога ўваходзіць Мікола Матрунчык, зладзілі талаку і дапамаглі разбіраць пагарэлыя рэчы. Накрылі дах дома над тымі пакоямі, якія не крануў агонь — каб іх не замачыла дажджом і можна было ўпарадкаваць тое, што захавалася. Дапамагаюць і сябры, і незнаёмыя людзі.








— Звычайна кажуць: тры беларусы — пяць партый, маўляў, беларусы не здольныя аб'ядноўвацца. Але мы атрымалі такую лавіну суперажыванняў і прапаноў дапамагчы! Гэта дае надзею, што ў крытычны момант усё з'яднаецца, як трэба, — разважае Мікола Матрунчык.

І працягвае: — Грамадства можа змабілізавацца на самаразвіццё, але будзе частка тых, хто стане ўспрымаць усё скептычна. І я ўпэўнены, што з'явяцца скептыкі, якія скажуць: «Вось, Міколу добра: стары дом згарэў, ён сабе новы зробіць, а хоць бы нам хто дапамог». Я чытаў такія каментары. Але я таксама з любоўю буду ўспрымаць гэты недавер. І для нашай сям'і цяпер паўстала вялікая адказнасць і навука быць сумленнымі перад людзьмі, якія адгукнуліся і дапамаглі.

— Чалавечая падтрымка такая неацэнная, што і хацеў бы ўпасці ў роспач, але проста не маеш права. Трэба глядзець наперад. А калі жывеш на зямлі, бачыш, як з'яўляецца маладое жыццё, гэта таксама надае сіл, у горадзе такога не ўбачыш, — дадае на развітанне жонка Міколы Матрунчыка спадарыня Таццяна.

Сям'і Матрунчыкаў усё яшчэ патрэбная любая дапамога. Так, неўзабаве спатрэбіцца адмысловец у будаўнічай сферы. Гаспадары будуць удзячныя за ўдзел справай (калі жадаеце папрацаваць на разборах завалаў, звязвайцеся з рэдакцыяй «Новага Часу» альбо тэлефануйце спадару Міколу: +375296269815), а таксама грашыма. Пералічыць іх можна на любы з наступных рахункаў (важна: уладальніцу рахункаў трэба пазначаць Матрунчык Таццяна Аляксееўна).

**Ідэя-банк BYN** (рахунак у беларускіх рублях).
Нумар дагавора: 220983773
Нумар рахунка IBAN: BY65SOMA3014MB00000220983773
Алгарытм пераводу ў дрэве АРІП:
Банковские, финансовые услуги -> Банки, НКФО -> Идея Банк -> Пополнение счета (онлайн) -> 220983773
**БПС-Сбербанк BYN** (рахунак у беларускіх рублях).
Нумар дагавора: 5434026
Нумар рахунка IBAN: BY21BPSB3014F000000005434026
Алгарытм пераводу ў дрэве АРІП:
Банковские, финансовые услуги -> Банки, НКФО -> БПС-Сбербанк -> Пополнение счета с картой -> 5434026
**Беларусбанк BYN** (рахунак у беларускіх рублях).
Нумар рахунка IBAN: BY16AKBB31340000002110070000
Алгарытм пераводу ў дрэве АРІП:
Банковские, финансовые услуги -> Банки, НКФО -> Беларусбанк -> Пополнение счета -> BY16AKBB31340000002110070000
**Беларусбанк USD** (рахунак у доларах ЗША).
Нумар рахунка IBAN: BY46AKBB31341000001280070000
**Беларусбанк EUR** (рахунак у еўра).
Нумар рахунка IBAN: BY41AKBB31342000001120070000

# Юлія Цімафеева: «Я добра ўяўляю, што такое зямля, ведаю яе на смак, на дотык»

Ганна ВАРОНКА

**Не так шмат сучасных беларускіх літаратараў, вядомых у свеце. Перакладчыца і паэтка Юлія Цімафеева — якраз адна з іх. Чалавек на скрыжаванні моваў: яна дае магчымасць дакрануцца да сусветнай літаратуры па-беларуску, але і яе вершы знайшлі чытача ў многіх краінах. Пра тое, калі размаўляе на трасянцы, як змяніліся беларускія жанчыны і чаму паэзія і фатаграфія падобныя, распавяла Юлія Цімафеева.**




**Тое, з чым мы выраслі, з чаго ўсё пачыналася, мы не зможам адрынуць. Пэўны час я хацела адрынуць вёску. А цяпер зразумела, што гэта мая зямля, яна робіць мяне самой сабой, таму нікому яе не аддам**

***— Я са здзіўленнем прачытала, што вы не любіце слухаць музыку. Гэта праўда?***

— Я амаль не слухаю музыку цяпер, а ў маладосці любіла розную — блэк-метал, напрыклад. Сёння аддаю перавагу цішыні. Яна мяне супакойвае, яе так мала ў цяперашнім свеце. Для мяне гэта спосаб аднавіць гармонію, бо шум, што нас акружае — музыка, людскія размовы, транспартны гул — вельмі стамляе, не дае зазірнуць унутр, прыслухацца да сябе. Мне падаецца, адсутнасць маўклівасці — вялікая праблема, таму ціша такая каштоўная, асабліва ў горадзе. Можа, гэта звязана з тым, што я з вёскі. Бо цішыня і цемра акружалі мяне з дзяцінства. Доўгія зімовыя вечары і ночы прыносілі спакой і неабсяжнае цёмнае неба.

***— А любімыя гукі? Цвыркуны, напрыклад, ці певень раніцай?***

— Ведаеце, у нейкі перыяд жыцця мяне вельмі супакойваў гук швейнай машынкі. Калісьці я шыла, цяпер ужо не, хаця маю машынку дагэтуль. Часам, вядома, я таксама слухаю музыку, што-небудзь спакойнае, каб аднавіць парадак у сваіх клетачках. Мой брат, напрыклад — ён музыка, — не разумее, як можна слухаць музыку фонам. Але я так часам раблю. Напрыклад, калі перакладаю вельмі нудны тэкст, тады і справа ідзе весялей.

***— Уяўлялі, як гучалі б вашы вершы, пакладзеныя на музыку?***

— Мае вершы ўжо былі пакладзеныя на музыку. Альгерд Бахарэвіч, мой муж і пісьменнік, а таксама фронтмэн гурта «Правакацыя», некалькі гадоў таму зрабіў з майго верша песню «Жонка рыбака». А таксама музыка, кампазітарка, выдавачка з Прагі і наша з Альгердам сяброўка Весна Касэрэс напісала музыку да маіх вершаў...

***— Вы казалі, што пачалі пісаць рана, у восем-дзесяць гадоў. Памятаеце свае першыя вершы?***

— Яны былі вельмі смешныя, дзіцячыя. Не буду іх цытаваць, але дакладна памятаю момант іх стварэння: лета, канікулы, сонца свеціць. І тут нечакана зрыфмаваліся некалькі радкоў. Гэта былі спробы ўхапіцца за мову, паглядзець, што ты можаш з ёй зрабіць. А яшчэ, памятаю, я прыдумляла вершы, ідучы са школы дахаты. І ў гэтых радках я казала пра сябе ад мужчынскага імя: мабыць, пад уплывам Пушкіна. У нашай савецкай школе казалі, што галоўны паэт — Аляксандр Сяргеевіч. Тады мне здавалася, што толькі мужчына можа быць сапраўдным паэтам, нас так вучылі, але мне ўсё адно хацелася да гэтага спрычыніцца.

***— У вашай паэзіі шмат вобразаў зямлі. Для вас радзіма — гэта зямля?***

— Думаю, гэта не толькі для мяне, мабыць, для многіх. Я паходжу з вёскі — цяпер для мяне гэта галоўная тэма. Сёння ж усе гарадскія, таму калі кажаш, што з вёскі, то такая заява гучыць арыгінальна (усміхаецца). Я выхоўвалася на зямлі, я вельмі добра ўяўляю, што гэта, ведаю яе на смак, на дотык. Цяпер я не займаюся сельскай гаспадаркай, але ў дзяцінстве, вядома, была далучаная да кола ўсіх сельскагаспадарчых працаў. Тое, з чым мы выраслі, з чаго ўсё пачыналася, мы не зможам адрынуць. Заўжды будзем несці гэта ў сабе, змагацца, прымаць, не прымаць. Але нікуды не падзенемся — мы вымушаныя весці дыялог з тым, што закладзена ў нас у першыя гады жыцця. Пэўны час я хацела адрынуць вёску. А цяпер зразумела, што гэта мая зямля, яна робіць мяне самой сабой, таму нікому яе не аддам. Прынамсі, як паэтычны вобраз.

***— Урывак з рэцэнзіі Алены Карп: «Мовы не хапае («Адмоўнасьць»), таму такія істотныя мова візуальнага, музыка. Сьвет выказвае сябе невымоўна <…> і насамрэч няпроста вэрбалізаваць, пакласьці гэтую графіку на паперу. На фотапаперу, магчыма, прасьцей. Ва ўсякім разе ў Юлі Цімафеевай атрымліваецца, але пра гэта ня тут, не цяпер і ня я». Вашыя фота — візуальная паэзія?***

— Напэўна, я ўспрымаю іх як працяг паэзіі. І менавіта таму мне цяжка ствараць фотасерыі. У цяперашняй фатаграфіі вельмі распаўсюджана рабіць серыі, а для мяне серыйнасць — гэта проза, дзе найперш важны сюжэт. Ты ідзеш, здымаеш, збіраеш фатаграфіі разам і расказваеш гісторыю. Паэзія ж для мяне — зусім іншае. І я не хачу расказваць гісторыю. Я хачу, як Будда, моўчкі паказваць на прыгажосць, якая нас акружае, але не кожнаму адкрываецца. Таму ў гэтым сэнсе я ўспрымаю фатаграфію як працяг паэзіі.

Хаця я сама спрабую пісаць прозу і цяпер працую над кнігай, але нават не ведаю, калі скончу. Толькі і проза ў мяне паэтычная. Мне вельмі важна чуць рытм слоў. З гэтага пункту гледжання, я лічу, што любая добрая проза — таксама паэзія.

***— Вашая фотавыстава «Мінск вачыма aпаратара дрона іншаземнага касмічнага карабля» летась адбылася ў Варшаве...***

— Гэта была другая выстава. Першая, маленькая, нядоўгая, адбылася ў Патсдамскім універсітэце ў Германіі. Там была канферэнцыя, прысвечаная вёсцы, якую арганізоўвалі мясцовыя славісты. Альгерд Бахарэвіч прэзентаваў сваё эсэ, а я — фотавыставу. Яна называлася «Сіні: колер жыцця беларускай вёскі». Вось тады я паспрабавала зрабіць серыйны фотапраект, у аснове якога быў пошук сіняга ў дэталях вясковага жыцця

***— А якія вёскі фатаграфавалі?***

— У асноўным сваю — Кароткавічы, вёску, дзе жывуць мае бацькі. Я туды часта езджу, і там мае родныя людзі. Але, вандру-



ючы па Беларусі, праз шматлікія вёскі, я бачу, што сіні прысутны паўсюдна.

***— У вашай вёсцы размаўляюць па-беларуску?***

— Не, але там і па-руску не размаўляюць, гэта ж Гомельская вобласць. Я заўжды кажу, што мая родная мова — трасянка, а не руская і не беларуская. Мы — перасяленцы з Чарнобыльскай зоны *(вёска Спярыжжа, Брагінскі раён. — Заўв. аўт.)*. І ў вёску, дзе апынулася мая сям'я, перасялілі людзей з Хойніцкага раёна, з Брагінскага. Натуральна, яны размаўлялі на сваіх усходнепалескіх дыялектах. А беларускую мову я вывучыла ў школе, бо, як і многія вясковыя школы, яна была беларускамоўнай. А таксама праз кнігі.

***— Размаўляеце часам на трасянцы?***

— Цяпер з бацькамі я размаўляю толькі на трасянцы. Калісьці ў падлеткавым узросце я гэтага вельмі саромелася. Калі скончыла дзевяць класаў у вясковай школе, паступіла ў Гомельскі абласны ліцэй. Тады ў Гомелі, натуральна, большасць школ былі рускамоўныя (цяпер, напэўна, усе). І ў той час я мусіла размаўляць па-руску: мы ж усе падлеткі, не хочам выдзяляцца, а калі хочам, то ў нейкіх іншых рэчах. Я вельмі саромелася таго, як размаўляла мая мама — на трасянцы, на няправільнай мове. А мне ўсе вакол казалі: «Ты так прыгожа размаўляеш па-руску, не верым, што ты з вёскі». Я выгаворвала і «р» мяккі, і «г» выбухны, і ўсё астатняе ў мяне атрымлівалася цудоўна *(усміхаецца)*. Але праз пэўны час я зразумела: я не мушу з мамай размаўляць на нейкай рускай ці беларускай, калі ў яе ёсць свая, а я хачу, каб мяне разумелі, я хачу адчуваць сувязь. І я зноў пачала размаўляць на трасянцы. Часам, калі мы з Альгердам едзем у аўтобусе і я гавару з мамай па тэлефоне, ён кажа, што наўкол усе абарочваюцца: такая інтэлігентная жанчына і так непрыгожа размаўляе *(усміхаецца)*.

***— Вашы вершы перакладалі на розныя мовы...***

— Якраз нядаўна на маю кнігу «Цырк» у нямецкім перакладзе выйшла рэцэнзія ў адной з самых уплывовых нямецкіх газет «Frankfurter Allgemeine Zeitung». Нямецкі «Zirkus» выйшаў у невялікім берлінскім выдавецтве, перакладчыкі — Томас Вейлер і Ціна Вюншман. А годам раней выйшаў «Цырк» па-польску ў перакладзе Багдана Задуры.

***— Што адчуваеце, калі чытаеце свае вершы ў перакладзе?***

— Класнае пачуццё! Канешне, адрозніваецца гучанне, але... Мне радасна. Я сама перакладчыца, і паэзіі таксама. Таму разумею, што гэта ў большай ступені твор маіх перакладчыкаў, чым мой. І нават калі мае перакладчыкі робяць змены ў тэксце, я іх дазваляю, калі гэта сапраўды прымальна для аўдыторыі, для якой вершы прызначаныя. У ЗША, напрыклад, мае творы будуць чытацца не так, як у Беларусі, і не так, як у Польшчы ці ў іншых краінах. Розным прасторам і розным аўдыторыям патрэбныя розныя мовы. Я кажу пра мову не толькі як пра спосаб зносін, але і пра паэтычныя мовы таксама.

***— А вы свае вершы перакладаеце?***

— Я спрабавала перакладаць свае вершы, але кінула і вырашыла, што больш не буду гэтага рабіць. Я вельмі ўдзячная маім перакладчыцам і перакладчыкам, якія робяць гэтую працу за мяне. Я не змагу так добра перакладаць, напэўна, на ніводную мову. Можа, толькі на рускую, але і на яе я рабіла толькі падрадкоўнік. А так мае вершы шмат на якія мовы перакладалі: на грузінскую, чэшскую, славацкую, англійскую, нямецкую, польскую, украінскую, шведскую, трохі на нарвежскую...

Мае вершы таксама знітаваныя з маёй манерай чытання. Мне важна, каб яны гучалі, былі прачытаныя ўголас. Гучанне і тэкст для мяне вельмі моцна звязаныя. Чытаць па-нямецку ўголас свае вершы я не магу, як і чытаць па-польску. Таму і не здольная іх да канца адчуць.

***— Пра вас кажуць як пра паэтку-феміністку. У 2016 годзе, калі выходзіў нумар часопіса «ПрайдзіСвет», прысвечаны феміністычнай літаратуры, вы казалі: «Мне падаецца, да нас яшчэ не дайшла і другая хваля фемінізму, не гаворачы ўжо пра трэцюю, таму важна казаць пра жанчын у літаратуры». Прайшло чатыры гады, як вам здаецца, змянілася наша грамадства ў адносінах да жанчын?***



**Цяпер з бацькамі я размаўляю толькі на трасянцы. Калісьці ў падлеткавым узросце я гэтага вельмі саромелася. Але праз пэўны час я зразумела: я не мушу з мамай размаўляць на нейкай рускай ці беларускай, калі ў яе ёсць свая, а я хачу, каб мяне разумелі, я хачу адчуваць сувязь**

— Шмат чаго змянілася. Калі нумар «ПрайдзіСвета» толькі выйшаў, я казала сваім калежанкам і калегам: «Вось пабачыце, гэтая тэма яшчэ прагучыць, яна ўжо лунае ў паветры». І пакрысе наша грамадства змяняецца. Прынамсі, тое, што я бачу ў сацыяльных сетках, рэкламе, СМІ. Ідзе абмеркаванне гвалту на працоўным месцы, у сям'і, гавораць пра свабоду ў родах і сексісцкую рэкламу. Цяпер ужо нехта задумаецца, ці варта парушаць жаночыя правы нават у дробязях. І калі гэта робіцца, то, хутчэй, як правакацыя. Аб'ектывацыя жанчын зрабілася заўважнай. Значыць, фемінізм разглядаюць як нешта сур'ёзнае, як тое, што мае пэўную сілу. Я вельмі радая, што сітуацыя змяняецца паціху: з'яўляюцца кнігі, праекты. Кніга Ірыны Саламацінай і Наталлі Кухарчык «Яна была» пра гісторыі поспеху выдатных беларусак мінуўшчыны таму добры прыклад. Мы вяртаем гэтыя імёны, гэта цудоўна. Святлана Алексіевіч запусціла жаночае выдавецтва...

***— Моцна змяніліся жанчыны на працягу вашага жыцця?***

— Канечне! Адносіны ў сям'і, іх паводзіны і характар, тое, як жанчыны ідуць па жыцці і ўспрымаюць сябе. Калі раней больш думалі пра замужжа, то цяпер вучацца, выбіраюць, за каго выйсці замуж — не за першага-лепшага, а за насамрэч лепшага. Цяпер жанчыны ідуць і робяць тое, што самі хочуць у большай ступені, чым, напрыклад, мая мама і яе пакаленне.

Мяркую, што і вясковых жанчын гэта тычыцца таксама. Хаця, вядома, шмат моладзі, і жанчын у тым ліку, якія хочуць нечага дасягнуць, з'язджаюць у горад, дзе можна атрымаць адукацыю, вырасці і не жыць такім жыццём, у якім ёсць толькі дзеці, праца, гаспадарка, прыборка, гарод.

***— Альгерд Бахарэвіч так пра вас выказаўся: «Яна чалавек вельмі актыўны і незалежны. З тых жанчын, якія маўчаць не будуць. Калі яна выказваецца, то ты ж ведаеш, часам могуць наляцець нейкія непрытомныя, "нацыкі", ці правыя, ці проста ідыёты». Вы такая, жанчына-воін, амазонка?***

— Напэўна, розная, як кожны чалавек. Мы ўсе розныя. Я не скажу, што хаджу з ружжом наперавес *(усміхаецца)*, не. Але такою таксама бываю. Калі мяне «дастануць», то я маўчаць не буду.

***— Вы пісалі пра кніжку з вашага дзяцінства «Вот такой рассеянный с улицы Бассейной», якую вы вельмі любілі і страцілі пры перасяленні з Чарнобыльскай зоны. Ніколі не хацелі купіць падобны асобнічак?***

— Не. Яна так і засталася незакрытым гештальтам. Траўмай, якую ўжо ніяк не вылечыць. Справа не ў тым, каб купіць новую, а ў тым, што яна засталася там, адкуль мы з'ехалі. Менавіта тую кніжку ўжо ніякай іншай не адновіш. Аднак гэтыя траўмы, маленькія трэшчынкі і робяць нас тымі, кім мы ёсць. Можна ставіцца да іх як да нечага сумнага, імкнуцца выправіць, вылечыць, але адначасова шкада, што ты не будзеш такой, якой ёсць цяпер. Тое самае ўвасабляе і вобраз зямлі ў маёй паэзіі. Зямля, дзе ты вырасла, ці пакінутая любімая кніга — у кожнага свой успамін і сітуацыя — могуць прымусіць нас крыўдаваць, плакаць, сумаваць, але мы так расцем, мы так развіваемся, мы пераадольваем свае траўмы і рухаемся далей. І дзякуючы памяці, дзякуючы ўсім сваім балячкам, мы становімся больш чалавечнымі.

***— Вы любіце кнігарні і калі вандруеце, то абавязкова іх наведваеце. Якія ў вас любімыя і ў якой краіне?***

— Напэўна, «Shakespeare and Company» ў Парыжы, англамоўная кнігарня з вялікай гісторыяй. Туды мы з Альгердам Бахарэвічам наведваліся, калі жылі ў французскай сталіцы некалькі месяцаў. Па-французску мы не размаўлялі, толькі крыху вучылі, а па-англійску маглі. І кожны тыдзень мы туды хадзілі, бычцам некалі ў кнігарню Логвінаў: слухалі выступоўцаў, знаёміліся з кнігамі, мацалі іх, чыталі, натхняліся. Але мяне цікавяць кнігарні ў любой краіне, асабліва букіністычныя. Новыя таксама, але яны імкнуцца рабіць добрае ўражанне. У букіністаў жа кнігі не надта хочуць падабацца, ім збольшага ўсё роўна: яны знялі ўвесь свой лоск і засталіся такімі, якія ёсць. Яны самадастатковыя, як жанчыны без касметыкі *(смяецца)*.

***— А ў Мінску — кнігарня Логвінаў, так?***

— Скажам так: гэта кнігарня Логвінаў, якая была на старым месцы. Я, канечне, зычу ім поспехаў і хачу, каб яны развіваліся, але, калі кнігарня пераехала, нешта страцілася, больш такога месца ў Мінску няма. Вельмі шкада, што зачыніліся кнігарня «Сон Гоголя» (дзе мы не так часта бывалі), там адбываліся нашы імпрэзы, выступалі нашы літаратурныя госці. Напрыклад, ладзілася сустрэча з вядомым нарвежскім пісьменнікам і ілюстратарам Стыянам Холе, яго кнігу «Лета Германа» я перакладала з нарвежскай... Вельмі шкада, што месцы з такім духам зачыняюцца і саступаюць месца кнігарням «Белкнігі» з зусім іншымі каштоўнасцямі. А сярод мінскіх букіністаў я вылучаю кнігарню «Веды». На жаль, букіністы ў нас таксама зачыняюцца, але «Веды», здаецца, пакуль трымаюцца. Сёння пасля сустрэчы з вамі якраз пойдзем туды з Альгердам і праверым.



**Фота з уласнага архіва Юліі Цімафеевай**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ПОЛЬШЧА. Запрашаем у піўны гатэль!

Польскі бізнесовец Януш Палікот пацвердзіў імідж арыгінальнай асобы. Яго папярэднім праектам была сацыял-ліберальная партыя «Рух Палікота», якая прарвалася ў Сейм. Цяпер Палікот прыцягнуў увагу да сябе дзякуючы піву. Прадпрымальнік, які вельмі даўно займаецца продажам алкаголю, задумаў будаваць дамы, дзе з кранаў акрамя вады будзе ліцца ячменны напой. Узнікае пытанне, ці захоча нехта жыць у такім доме? «Так», — адказвае Палікот, і спасылаецца перш за ўсё на вялікую папулярнасць піва сярод палякаў: больш за іх у Еўропе піва п'юць толькі немцы і чэхі. Акрамя таго, будынкі з піўнымі кранамі плануецца размяшчаць каля піўзаводаў. Фактычна, гэта будуць гатэлі для турыстаў, якія, наведаўшы прадпрыемства, пасля могуць зняць сабе нумар і піць напой колькі заўгодна. Дарэчы, такія эксперыменты ўжо рабіліся ў Скандынавіі і ў Злучаных Штатах. На цяперашні момант кампаніяй Палікота ўжо запланаваныя першыя чатыры піўныя «гатэлі». Аўтар ідэі лічыць, што тым самым Польшча закладзе новую піўную традыцыю ў ЕС. Дарэчы, адначасова бізнесовец плануе пашырыць у Польшчы вытворчасць безалкагольнага піва, за якім, на яго думку, будучыня.

**Паводле польскай прэсы**

### МАЛДОВА. Краіна будзе федэрацыяй?

Канстытуцыйны суд Малдовы прыняў рашэнне, якое дае зялёнае святло з'яўленню рэгіянальных партый. Многія ўпэўненыя, што гэта паўплывае на мясцовы партыйны расклад. Перш за ўсё, гэтай магчымасцю могуць скарыстаца гагаузы. Лічыцца, што рэгіянальная партыя можа быць створаная на поўначы ў горадзе Бельцы, дзе пераважна выкарыстоўваецца руская мова. Таксама магчыма, што рашэнне суда — гэта пасланне эліце Прыднястроўя. Рашэнне па рэгіянальных партыях дазволіць Прыднястроўю мець сваю палітычную сілу ў выпадку рэінтэграцыі ў склад Малдовы. Між тым, правая апазіцыя мяркуе, што рэгіянальныя партыі будуць праваказваць як мінімум федэралізацыю, калі не сепаратысцкія працэсы. Самае цікавае, што паняцце «рэгіянальная партыя» ў цяперашнім заканадаўстве аб партыях адсутнічае. У рашэнні суда таксама ані слова наконт крытэраў для стварэння падобнага палітычнага аб'яднання. На думку юрыстаў, у сувязі з гэтым новыя рэгіянальныя партыі тэарэтычна могуць ствараца жыхарамі аднаго горада ці нават раёна.

**Паводле малдоўскай прэсы**

### ЕГІПЕТ. Выратаваць мараль

«Сегодня ты играешь джаз, а завтра родину продашь!» — гэты вядомы слоган часоў кампаніі супраць касмапалітаў у СССР прыходзіць на памяць, калі чытаеш навіны з Егіпту. Рэжым прэзідэнта Абдула-Фатаха ас-Сісі забараніў цэлы музычны жанр — так званы Mahraganat (варыянт фолька, які выконваецца з дапамогай электронных інструментаў). Мала таго, што ўрад патрабаваў ад дырэкцыі YouTube прыбраць усе ролікі ў стылі Mahraganat. У дадатак імамы выдалі фетву, якая забараняе мусульманам слухаць і выконваць творы ў гэтым жанры. Цяжка сказаць, чаму чыноўнікі зацікавіліся музыкай, якую звычайна граюць на вуліцах. Прэса лічыць, што прычына — у незвычайным поспеху песні «The Neighbor's Daughter» («Дачка суседа») у выкананні музыканта Хамо Біка. Нечакана для ўсіх згаданы твор стаў мегапапулярным, набраўшы ў тым жа You Tube больш за 110 мільёнаў праглядаў. Магчыма, улады пабаяліся з'яўлення новага, незалежнага ад улады публічнага куміра і вырашылі для перастрахоўкі забараніць не толькі твор, аднак увесь жанр. Застаецца дадаць, што фармальнай прычынай для забароны сталі словы ў песні: «Калі ты мяне кінеш, я нап'юся віна». На думку чыноўнікаў гэтая фраза «заахвочвае маральную дэградацыю».

**Паводле амерыканскай прэсы**

### УКРАІНА. Хто замовіў мову?

У экспертным асяроддзі да гэтага часу не могуць зразумець сэнс рашэння парламента непрызнанай Данецкай Народнай Рэспублікі (ДНР), які 4 сакавіка пазбавіў украінскую мову статусу дзяржаўнай. Афіцыйная падстава не ўражвае: «Прымяненне ўкраінскай мовы як "дзяржаўнай" не знайшло сваёй практычнай рэалізацыі». З аднаго боку, можна пагадзіцца з каментатарамі, якія бачаць у гэтым праяву стратэгіі Крамля на далучэнне Данбаса да Расіі. Але гэтая версія патрабуе дадатковых тлумачэнняў. Моўная рэформа слаба пасуе духу Мінскіх пагадненняў, выканання якіх патрабуе Масква для стварэння аўтаноміі ўнутры Украіны, што, маўляў, дасць запуск федэралізацыі краіны. Адзін з пунктаў пагаднення прадугледжвае правядзенне ў рэгіёне выбараў па ўкраінскіх законах, якія катэгарычна патрабуюць весці палітычную агітацыю па-ўкраінску. Такім чынам, атрымліваецца, што Масква блакуе Мінскія пагадненні, нарываючыся на санкцыі. Таксама не зразумела, чаму ў суседняй Луганскай Народнай Рэспубліцы мову пакуль ніхто не чапае. Застаецца дадаць, што ў самім Данецку некаторыя сепаратысты лічаць забарону праплачанай акцыяй. Хаця імя заказчыка пакуль не называецца.

**Паводле ўкраінскай прэсы**



Фота www.disgustingmen.com

# Генацыд над усімі генацыдамі

Алег НОВІКАЎ

**Самая, напэўна, крывавая вайна ў сучаснай гісторы закончылася 150 гадоў таму. Пераможцы здолелі знішчыць 60 працэнтаў насельніцтва краіны, што прайграла.**

«Я памру са сваёй краінай!» — крыкнуў парагвайскі прэзідэнт Францыска Лопес 28 лютага 1870 года ў адказ на прапанову здацца. У наступны момант Лопеса забілі, што фактычна паставіла кропку ў так званай Вялікай Парагвайскай вайне 1864–1870 гадоў.

Усё пачалося прыкладна на пяць гадоў раней, калі бразільцы зрынулі ўругвайскі ўрад, які падтрымліваў Парагвай. У адказ згаданы вышэй Лопес абвясціў вайну Бразіліі. Паколькі Аргенціна адмовіла Лопесу ў праходзе праз яе тэрыторыю парагвайскіх войскаў, яму давялося абвясціць вайну яшчэ і Аргенціне. Кампанія пачалася для Парагвая паспяхова. Але паступова бразільцы перанеслі вайну на тэрыторыю парагвайцаў. Апошнія абараняліся да канца 1868 года, калі саюзнікі захапілі сталіцу краіны — Асунсьён. Параза падавалася непазбежнай. Але Лопес падаўся ў горы, адкуль кіраваў партызанкай, пакуль яго лагер не быў знойдзены і знішчаны.

У прынцыпе, лацінаамерыканскія дзяржавы, якія нарадзіліся на рэштках Іспанскай імперыі, часта ваявалі. Аднак Вялікая Парагвайская вайна стаіць асобна. Маркёрам канфлікту ад самага пачатку была фенаменальная жорсткасць. Страты мужчынскага насельніцтва ў Парагваі па слядах вайны ацэньваюцца ў 90%. Для вырашэння дэмаграфічнай праблемы ўрад нават быў вымушаны часова легалізаваць шлюбы з некалькімі жанчынамі. І гэта ў каталіцкай краіне!

Прычым, не шкадавалі ўдзельнікі вайны нават сваіх. Той жа самы Лопес адправіў на смерць уласнага брата, біскупа Парагвая, які ў нечым правініўся. Напярэдадні сваёй гібелі ён паспеў падпісаць смяротны прысуд для маці і сястры.

Шалёную колькасць ахвяр тлумачаць у тым ліку тым, што ў парагвайскую армію на нейкім этапе пачалі заклікаць жанчын і нават дзяцей. Так, у адной з бітваў змагаліся 3500 дзяцей і падлеткаў ад 9 да 15 гадоў з агульнай колькасці парагвайскіх сілаў у 6000 чалавек. Як правіла, зброі для дзяцей не хапала. Ім даводзілася ісці ў атаку з драўлянымі навучальнымі стрэльбамі, да якіх неяк прымайстроўвалі штыкі. Каб зрабіць эфект на праціўніка, падлеткі перад боем малявалі сабе сажай на твары вусы і бароды.

Страты сярод парагвайцаў звязваюць з іх фанатызмам, гатоўнасцю ісці за Лопесам да канца. Гэта, у сваю чаргу, тлумачыцца тым, што напярэдадні вайны краіна была цалкам ізаляваная, што дазволіла ўладам капітальна прачысціць моладзі мазгі. Таму адзін з сучасных гісторыкаў лічыць, што крыніцай гвалту было «сутыкненне псіхалогій крайнасцяў». Ахопленыя патрыятызмам парагвайцы-падлеткі намагаліся ахвяраваць сабой у імя Айчыны. У сваю чаргу, тым жа бразільцам даводзілася забіваць юных парагвайцаў пачкамі праз тое, што кожнаму было зразумела: адзіны спосаб выйграць вайну — знішчыць парагвайскае войска.

У антыглабалісцкай прэсе карані маштабнага гвалту падчас вайны бачаць у тым, што Парагвай, быццам, кінуў выклік Вялікабрытаніі — самай моцнай на той час дзяржаве свету. Сцвярджаецца, што ізаляваны ад глабальных цэнтраў Парагвай стварыў нейкі альтэрнатыўны сацыяльна-палітычны праект кшталту Паўночнай Карэі. Відавочныя дасягненні мадэлі Лопеса, як, напрыклад, стопрацэнтная пісьменнасць, маглі зацікавіць іншыя экс-калоніі. Як вынік, знішчэнне парагвайцаў разглядаецца як свядомы і дэманстратыўны акт генацыду супраць тых, хто асмеліўся кінуць выклік Лондану.

У сваю чаргу, ліберальныя публіцысты нагадваюць, што Парагвай па-сутнасці быў ледзь не таталітарнай дыктатурай Лопеса. І таму не дзіўна, што ў выніку дыктатар-самадур нарабіў каскад знешнепалітычных памылак, увязаўшыся ў вайну з трыма краінамі адразу.

Што тычыцца саміх парагвайцаў, то для іх, як піша прэса, «абмеркаванне гісторыі з'яўляецца нацыянальным відам спорту». У цэнтры дыскусій стала дамінуе гістарычная постаць Францыска Лопеса. На працягу першых дзесяцігоддзяў пасля вайны ў прэзідэнце бачылі выключна тырана. Але ў 1930-х гадах Парагвай здолеў перамагчы Балівію, абараніўшы свае прэтэнзіі ў рэгіёне Чако. На хвалі патрыятызму ў 1936-м парэшткі Лопеса былі выцягнутыя з джунгляў і ў прысутнасці ста тысяч чалавек урачыста перапахаваныя ў Асунсьёне.

У часы дыктатуры Альфрэда Стрэснера (1954–1989 гады) спадчына Лопеса зайграла новымі адценнямі. Яго называлі «героем хрысціянскай барацьбы супраць камунізму», хаця назваць бразільцаў або аргенцінцаў сярэдзіны XIX стагоддзя камуністамі вельмі цяжка. На цяперашні дзень у трактоўках дасягнуты нейкі кампраміс: парагвайцы памятаюць вайну як герaічную кампанію, якая выявіла мужнасць нацыі, і адначасова — як эпічную трагедыю, якая падарвала яе развіццё.

Зрэшты, не для ўсіх вайна аказалася трагедыяй. Аўтары цяперашніх публікацый звяртаюць увагу на тое, што падзеі 1864–1870 гадоў сталі «велізарным бонусам» для парагвайскай эліты. Жудасныя наступствы вайны, якія адчуваюцца да гэтага часу, дазваляюць палітыкам дасюль перакладаць на тую трагедыю ўласныя правалы. У гэтым плане не дзіўна, што мясцовая кансерватыўная партыя Colorado за апошнія 150 гадоў умудрылася згубіць уладу толькі адзін раз — і тое толькі на адну пяцігодку.

# Як стварыць вірус?

Алег НОВІКАЎ

**Падаецца, значна хутчэй за распаўсюд каронавіруса па свеце распаўсюджваюцца самыя вар'яцкія канспіратыўныя тэорыі наконт яго з'яўлення і паходжання.**



Фота www.sn.ria.ru

Чакана, што ўсе канспіратыўныя тэорыі наконт вытокаў эпідэміі круцяцца вакол тэзы пра тое, што вірус быў створаны штучна. Яго штучны характар, напрыклад, тлумачыцца тым, што ўспышка вельмі падобная на фрагменты кнігі «Вочы цемры» Дзіна Кунца. У аснове сюжэту кнігі, што была апублікаваная ў 1981 годзе, прыгоды адной жанчыны. Яна спрабуе знайсці сына, які таямніча знік у паходзе.

Аказваецца, хлопчыка трымаюць у Кітаі, а дакладней — у горадзе Ухань, на месцы ўспышкі смяротнага віруса пад назвай «Ухань–400». Гэты «Ухань–400» быў распрацаваны ў таемнай лабараторыі, а яго ўплыў на арганізм чалавека нагадвае эфект COVID-19. Адсюль нескладана выказаць ідэю, што нейкі вірусолаг, начытаўшыся Дзіна Кунца, вырашыў стварыць нешта падобнае на «Ухань–400».

Зрэшты, гэтая тэорыя занадта складаная. Значна большая аўдыторыя падтрымлівае версію пра тое, што COVID-19 — таемная біялагічная зброя, якая паводле нейкага загаду або выпадкова трапіла на волю. Калі верыць выданню ET Prime report, за гэтым стаяла групоўка кітайскіх шпіёнаў, што пад выглядам навукоўцаў пранікла ў канадскую нацыянальную лабараторыю мікрабіялогіі (NML). Агентаў раскрылі, але да таго яны здолелі выкрасці адзін з самых смяротных патагенаў, каб потым з-за нядбайнасці яго вызваліць.

З гэтым, напэўна, не пагодзяцца хакеры з групы Anonymous Kazakhstan. Іх інсайдар з персаналу Цэнтральнай рэферэнс-лабараторыі ў Алматы паведаміў, што каронавірус быў распрацаваны менавіта тут. Пра гэта, нібыта, сведчыць факт, што дзве са 111 пробаў на каронавірус, якія нядаўна паступілі ў лабараторыю, цалкам супалі са штамам віруса, што распрацоўваўся ў лабараторыі пару гадоў таму. Прычым распрацоўка каронавіруса вялася пад куратарствам таямнічага прадстаўніка ЗША.

Увогуле, тэма прысутнасці амерыканскіх цэнтраў выведкі — вельмі папулярная. Напрыклад, на якні яшчэ ў лютым гэтага года павесіў адказнасць за эпідэмію ў Іране мясцовы прэзідэнт Хасан Рухані. Падобная інфармацыя гучала і на расійскіх каналах.

Не менш вар'яцкай падаецца ідэя, што за ўсім стаяць амерыканскі ўрад і шэраг фармакалагічных кампаніяў, якія вырашылі ўзбагаціцца. Яшчэ ў 2018 годзе, маўляў, быў выдадзены патэнт на стварэнне каронавіруса. Пасля планавалася, нібыта, выпусціць яго на волю, каб зарабіць грошы на патэнцыйнай вакцыне. Аўтары і паслядоўнікі гэтай тэорыі ўпэўненыя, што такая вакцына існуе, і ў Белым доме толькі чакаюць таго часу, калі эпідэмія дасягне кульмінацыі, каб пачаць продажы антыдоту.

А вось амерыканскі сенатар Том Котан у эфіры канала Fox News падтрымаў ідэю, што вірус стварылі і запусцілі самі кітайцы. Навошта? Каб неяк узяць пад кантроль дэмаграфічны выбух у Паднябеснай. Галоўны аргумент Котана і яго аднадумцаў — у тым, што першы ачаг эпідэміі паўстаў у кітайскім горадзе Ухань. Па збегу абставінаў, менавіта ў гэтым горадзе размешчаны інстытут вірусалогіі, пад кантролем якога працуе самая сучасная ў КНР вірусалагічная лабараторыя.

Арыгінальная думка і групы блогераў, якія бачаць у апошніх падзеях змову медыя. Дзеля сенсацыі, якая прыносіць гешэфт, СМІ, нібыта, запусцілі і падтрымліваюць тэму смяротнага віруса. Між тым, паводле навуковых цэнтраў, узровень смяротнасці для каронавіруса складае 2,3%. У той жа час атыповая пнеўманія не так даўно касіла прыкладна кожнага дзясятага з тых, хто яе падхапіў. Аднак чамусьці такога ажыятажу ў прэсе не назіралася.

Безумоўна, такога кшталту тэорыі падаюцца прымітывам. Напрыклад, тэорыя, што каронавірс — гэта біялагічная зброя, не вытрымлівае крытыкі спецыялістаў: па іх словах, пры выкарыстанні біялагічнай зброі працэнт смяротнасці дасягае 20–30 працэнтаў. Аднак каментары навукоўцаў не бяруцца да ўвагі тымі, хто тыражуе байкі. Хутчэй, наадварот. Пасля таго, як днямі кіраўніцтва Facebook заявіла, што будзе выдаляць усе фэйкі пра каронавірус, пазіцыі канспіролагаў толькі ўмацаваліся. Для іх гэта — лепшы доказ, што сапраўдныя прычыны эпідэміі хаваюцца ад грамадскасці.

Паўстала пагроза, што ў час эпідэміі канспіралагічныя тэорыі могуць сапраўды ўплываць на палітычную дыскусію і імідж палітыкаў, і нават дзяржаваў. Напрыклад, ЗША ўжо афіцыйна абвінавацілі Расію ў распаўсюдзе дэзінфармацыі пра вірус, у тым ліку тэорыю пра тое, што COVID-19 быў створаны ЦРУ як біялагічная зброя.

Зрэшты, магчыма, усё апісанае вышэй было толькі пралогам. У панядзелак на сусветных біржах здарыўся абвал курсаў. Найбольш арыгінальна «чорны панядзелак» пракаментавалі ў Белым доме. Там лічаць, што абвал справакавалі блізкія да дэмакратаў медыя, якія зладзілі сапраўдную істэрыку наконт каронавіруса. Крызіс на біржы патрэбны дэмакратам, каб напалохаць інвестараў, справакаваць укладчыкаў выводзіць грошы ў гатоўку, што падарве фондавы рынак, і, як вынік, абваліць рэйтынг Дональда Трампа.

Як бачым, пошук адказных за эпідэмію становіцца адной з тэмаў прэзідэнцкай кампаніі ў ЗША.

**Каментары навукоўцаў не бяруцца да ўвагі тымі, хто тыражуе байкі. Хутчэй, наадварот. Днямі кіраўніцтва Facebook заявіла, што будзе выдаляць фэйкі пра каронавірус, але пазіцыі канспіролагаў толькі ўмацаваліся. Для іх гэта — доказ, што сапраўдныя прычыны эпідэміі хаваюцца ад грамадства**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Валянціна Церашкова



Першая ў гісторыі жанчына-касманаўт, а цяпер дэпутатка расійскай Дзярждумы ад партыі «Адзіная Расія», зноў можа трапіць у гісторыю як палітык, які даў зялёнае святло як мінімум яшчэ адному прэзідэнцкаму тэрміну Пуціна. Менавіта 83-гадовая Церашкова прапанавала ў рамках канстытуцыйнай рэформы абнуліць колькасць кадэнцый, а гэта зноў дае права Уладзіміру Пуціну балатавацца на вышэйшую дзяржаўную пасаду Расіі.

Сама Церашкова патлумачыла сваю ініцыятыву наступным чынам: «Навошта круціць і гарадзіць? Трэба сумленна і публічна прадугледзець ці ўвогуле прыбраць абмежаванні па колькасці прэзідэнцкіх тэрмінаў».

Дзярждума хуценька падтрымала ініцыятыву былой касманаўткі. Пакуль Пуцін таксама не супраць абнулення прэзідэнцкіх тэрмінаў, «калі Канстытуцыйны Суд дасць афіцыйную выснову, што такая папраўка не будзе супярэчыць прынцыпам Асноўнага закона».

Наўрад ці ініцыятыва Церашковай з абнуленнем тэрмінаў не была ўзгодненая з прэзідэнцкай адміністрацыяй. Тым не менш, менавіта яе шмат хто зрабіў асабіста адказнай за тое, што Пуцін можа працягнуць свае паўнамоцтвы да канца жыцця. У сеціве хапае не вельмі карэктных каментароў накшталт заклікаў зноў адправіць Церашкову ў космас або праверыць яе на сувязь з іншапланетнікамі. Адначасова прадстаўнікі апазіцыі пачалі адзінкавыя пікеты ў цэнтры Масквы і падалі заяўкі на мітынгі супраць абнулення прэзідэнцкіх тэрмінаў.

### Нікалас Мадура



Прэзідэнт Венесуэлы, правадыр мясцовых сацыялістаў, пераплюнуў свайго беларускага калегу, які, як вядома, настойвае на тым, каб кожная жанчына мела тры дзіцяці. На думку венесуэльскага гаранта, трое дзяцей — гэта нават не мінімум. «У кожнай жанчыны павінна быць шэсць дзяцей! Гэта дапаможа краіне!» — заявіў ён падчас прэзентацыі свайго плана паляпшэння жаночага здароўя ў рамках тэлешоу.

З улікам таго, што краіна знаходзіцца ў стане працяглага крызісу, гэты заклік разглядаюць значна шырэй. За кошт выхавання дзяцей Мадура прапануе жанчынам забыць на эканамічныя праблемы.

Зрэшты, радасць мацярынства наўрад ці кампенсуе венесуэлкам думкі пра дрэннае матэрыяльнае становішча. З-за дэпрэсіі таксама назіраецца недахоп асноўных прадуктаў дзіцячага харчавання і прадметаў медыцынскага прызначэння. За апошні час пагоршылася медыцынскае абслугоўванне. Урад Венесуэлы не публікуе дадзеныя пра дзіцячую смяротнасць з 2017 года, калі ў бюлетэні міністэрства аховы здароўя быў зафіксаваны 30-працэнтны рост дзіцячай смяротнасці за год.

Калі верыць спікерам апазіцыі, заклік Мадура засведчыў, наколькі ён адарваўся ад побыту простых грамадзян, што толькі паскорыць эрозію рэжыму. Таксама мяркуюць, што заява была зробленая не ад добрага жыцця. Сярод 4,5 мільёна венесуэльцаў, якія за апошнія гады збеглі з краіны, прыкладна мільён дзяцей.

### Арсень Яцанюк



Экс-прэм'ер Украіны, адзін з лідараў Майдану–2014 хоча вярнуцца ў вялікую палітыку і заняць высокую пасаду, напрыклад, кіраўніка Нацбанка. Падобнае вяртанне выглядае на цуд, паколькі на момант адстаўкі яго кабінета ў 2016 годзе Яцанюка ненавідзелі 84 працэнты ўкраінцаў. Яго імя асацыявалася з абвалам грыўні ў 2014-м (з 9,5 грыўні за адзін долар да 25 грыўняў) і падзеннем узроўню сярэдняй заработнай платы да 150–200 долараў. Відавочна не на карысць Яцанюка і той факт, што менавіта падчас прэм'ерства ён стаў доларавым мільярдэрам. Аднак, нібыта, Уладзімір Зяленскі гатовы забыцца на ўсё гэта з-за страшнага кадравага голаду. Адсутнасць прафесіяналаў на кіруючых пасадах рыкашэтам б'е па яго папулярнасці. Сапраўды, Яцанюк пачаў раптам свяціцца на папулярных шоу, а гэта можна расцаніць як інфармацыйную падрыхтоўку да прызначэння. Цікава, што чуткі наконт вяртання Яцанюка цыркулююць адначасова з байкамі пра рэабілітацыю Віктара Януковіча. Яго людзі раптам апынуліся шырока прадстаўленыя ў новым кабміне Дзяніса Шмыгаля, які прыйшоў на змену ўраду Аляксея Ганчарука. Фрагментам рэабілітацыі Януковіча ў грамадскай свядомасці можа быць байка, пра якую згадалі некаторыя медыя. Згодна з ёй, Віктар Фёдаравіч… унук Брэжнева!

# Шляхецкі род Язерскіх

## Як царскі генерал выгадаваў дзяцей-рэвалюцыянераў

Юрый ГЛУШАКОЎ

**Адна з вуліц у цэнтры Гомеля з 1919 года носіць імя Мікалая Білецкага. Але мала хто ведае, што гэты савецкі герой быў... дваранінам і сынам царскага генерала!**



Сямён Язерскі, генерал-лейтэнант

### Ад Гомеля да Шыпкі

Зрэшты, імя і прозвішча рэдактара «Вестак» гомельскага рэўкама і першага старшыні Саюза журналістаў былі выдуманыя. На самай справе Білецкага звалі Павел Язерскі. Відавочна, псеўданім ён прыняў, каб схаваць сваё не зусім адпаведнае духу часу класавае паходжанне.

Сябра Гомельскага рэўкама Павел Язерскі-Білецкі нарадзіўся ў 1896 годзе ў сям'і генерал-лейтэнанта імператарскай арміі Сямёна Язерскага. Старадаўні шляхецкі род Язерскіх падзяляецца на некалькі гербаў. Найстаражытны з іх, герб «Прус», мае польскія карані і адносіцца да XVI стагоддзя. Нашы Язерская належаць да беларуска-ўкраінска-літоўскага гербу «Рогаля», вядомага з пачатку XVII стагоддзя.

Легендарны радавод гэтага прозвішча, нібыта ўзыходзячага да летапісных варагаў, апісаў нават Аляксандр Пушкін у няскончанай паэме «Язерскі». Праўда, яе аднайменны герой даўно страціў былы бляск і даходы сваіх феадальных продкаў: «А сам ён жалаваннем жыў і рэгістратарам служыў». Паводле задумы Пушкіна, паэма павінна была апавядаць пра лёс імкліва дэкласуючых дваранаў.

З такіх быў і бацька будучага гомельскага «камунара». Сямён Язерскі нарадзіўся ў 1852 годзе пад Гомелем. Праваслаўны, скончыў Гомельскую прагімназію. Але яго бацькі былі дробнамаёнткавымі дваранамі, і пракарміць юнака магла толькі служба. Сямён абраў ваенную. У 1870 годзе ён стаў вольнавызначаным у чыне унтэр-афіцэра 64 пяхотнага Казанскага палка, што кватараваў у Беластоку. Кажучы сучаснай моваЙ — «кантрактнікам». Праз чатыры гады армейскай службы Сямён паступіў у Рыжскую пяхотную юнкерскую вучэльню. У 1876 годзе скончыў яе па першым разрадзе і ў званні прапаршчыка. І вярнуўся да мінулага месца службы на Беласточчыну. А ў 1877 годзе 16-я пяхотная дывізія пераехала на Балканы, на фронт новай руска-турэцкай вайны. 4-ы армейскі корпус, у склад якога ўваходзіла дывізія, спачатку быў у рэзерве. Але пасля першых няўдач царскай арміі пад Плеўнай корпус перакінулі да гэтай турэцкай цвярдыні. Тады ж камандзірам 16-й дывізіі быў прызначаны Міхаіл Скобелеў, знакаміты «Белы генерал» (празваны ён быў так не за прыхільнасць да манархізму, а за звычку выязджаць пад кулі ў прыкметным белым мундзіры).



Павел Язерскі-Білецкі

31 жніўня 1877 года пачаўся трэці штурм Плеўны. Часці 4 корпуса зазналі няўдачу і змяшаліся ў кучу пад агнём асманаў. Акрамя толькі атрада Скобелева. Штыкавым ударам ён выбіў туркаў з траццяга грэбня ўмацаваных Зялёных гор. Пасля гэтага дывізія, з барабанным боем і разгорнутымі сцягамі, пайшла ва ўяўную вар'яцкую атаку на чацвёрты грэбень. Сам генерал Скобелеў — у перадавых баявых парадках. 400 метраў да варожых акопаў давялося падымацца па крутой гары, пад шалёным вінтовачны агнём. Але першы асманскі рэдут Каванлык быў узяты.

Услед за гэтым пяхота штыкамі выбіла турэцкіх аскераў і з другога рэдута — Іса-Ага. Два найважнейшыя ўмацаванні, ключы ад Плеўны, былі ўжо ў руках. Але галоўнакамандуючы вялікі князь Мікалай Мікалаевіч і цар Аляксандр II адмовілі Скобелеву ў падмацаваннях. Між тым, амаль усе сілы войска Асман-пашы былі кінутыя супраць 16-й дывізіі. І яна вымушана была адступіць з занятых вялікай крывёй вышынь.

Бясталентнае царскае камандаванне прывяло да вялізных стратаў рускай арміі пад Плеўнай. Адзін толькі 64-ы пяхотны Казанскі полк, у якім служыў падпаручнік Язерскі, страціў 20 афіцэраў і 661 чалавека, ніжэйшых званнем.

Ужо ў кастрычніку 1877 года, пасля доўгай аблогі Плеўны, 16-й дывізіі зноў давялося браць з боем Зялёныя горы. У баі яшчэ раз праявіў сябе «маладзецкім чынам» Казанскі пяхотны полк. Праз месяц спакутаваная блакадай армія Асман-пашы, пасля няўдалай спробы прарыву, вымушана была капітуляваць. Турэцкія палонныя былі разасланыя па розных гарадах Расійскай імперыі. Частка з іх апынулася ў Гомелі, на радзіме паручніка Язерскага.

Далей 16-я дывізія ўдзельнічала ў цяжкім зімовым пераходзе праз Балканскія горы. Пераадолеўшы Балканы, людзі і коні літаральна скочваліся па заснежаных кручах да Даліны Ружаў. І амаль адразу ж — у бой. Ля Шыпкі-Шэйнава зноў разгарэлася кровапралітная бітва. У вырашальны момант Скобелеў скіраваў у атаку на Шэйнава ўсё той жа Казанскі полк. І туркі паднялі над курганам белы сцяг. Шматмесячная блакада Шыпкінскага перавалу была знятая.

Пасля бою Міхаіл Скобелеў выйшаў перад строем салдат: «Імем Айчыны, віншую вас, браты!» «Куды трэба» адразу ж паляцелі даносы — малады генерал, які выклікаў дзікую зайздрасць, не згадаў у віншаванні імя цара!

Пасля казанцам былі падараваныя знакі на шапкі «За Шэйнава», а Скобелеў быў залічаны ў спісы палка. У 1882 годзе самы папулярны генерал рускай арміі, які камандаваў IV армейскім корпусам у Мінску, памёр пры загадкавых абставінах. Яго знайшлі мёртвым у нумары маскоўскай гасцініцы ў прастытуткі-немкі. Хадзілі чуткі, што Скобелева атруцілі — ці то нямецкая выведка, ці то царская ахранка. І ў тых, і ў іншых былі для гэтага важкія падставы. Скобелеў марыў пра вызваленне славян з-пад улады Германіі і Аўстра-Венгрыі і стварэнне вольнай федэрацыі народаў. У 1863 годзе ён прымаў удзел у падаўленні паўстання на тэрыторыі Польшчы. Але цяпер генерала падазравалі ў кантактах з рэвалюцыянерамі з «Народнай Волі» і магчымай падрыхтоўцы ваеннай змовы супраць цара.

### Няроўны бой з карупцыяй

Паручнік Язерскі за руска-турэцкую вайну 1877–1878 гадоў быў узнагароджаны ордэнамі: Ганны 4 ступені, Святога Станіслава 3 ступені з мячамі і бантам, Ганны 3 ступені з мячамі і бантам. Малады афіцэр пачаў рабіць дастаткова нядрэнную кар'еру. У 1879 годзе Сямён Язерскі стаў старшым ад'ютантам штаба дывізіі. А ў 1884 годзе яго перавялі ў памежную варту і прызначылі камандзірам Богушскага памежнага атрада на заходнім кардоне. Потым Язерскі зноў вярнуўся ў войска, — старшым ад'ютантам штаба 8-га корпуса.

Пасля яго службовы шлях яшчэ не раз рабіў зігзагі. Служба ў Галоўным штабе і на пасадзе іркуцкага паліцмайстра, у Вайсковым міністэрстве і ваенным савеце Маскоўскай ваеннай акругі. У 1903 годзе, у 50 гадоў, Сямён Язерскі быў пераведзены ў генерал-маёры.

У 1904 годзе, з пачаткам руска-японскай вайны, Сямён Іванавіч быў прызначаны інспектарам шпіталяў у Маньчжурскай арміі. Працы для ваенных лекараў было надзвычай шмат — царская армія цярпела паразу за паразай і несла вялікія страты. Дзеючай арміяй камандавалі былы начальнік штаба 16-й пяхотнай дывізіі Аляксей Курапаткін. У руска-турэцкую вайну ён быў ініцыятыўным афіцэрам, аднак праз чвэрць стагоддзя праявіў сябе нерашучым і бясталентным камандуючым. Што тычыцца ваенна-медыцынскай службы, то дзякуючы намаганням прагрэсіўных лекараў «на сопках Маньчжуры» ўпершыню былі ўжытыя рэнтгенаўскія апараты і індывідуальныя медыцынскія пакеты. Але ў той жа час у адсталай Расійскай імперыі фактычна адсутнічала фармацэўтычная прамысловасць, большасць лекаў і нават сталь для хірургічных інструментаў даводзілася закупляць за мяжой. У тыле лютавалі брушной і сыпны тыф, сібірская язва, малярыя, грып і венерычныя захворванні. Да ўсяго дадаваліся невынішчальныя крадзяжы і бюракратызм.

Пасля вайны генерал Язерскі служыў у кіраўніцтве Прыамурскай ваеннай акругі, быў там прадстаўніком ваеннага міністэрства. І ў 1911 годзе падаў рапарт на імя ваеннага міністра і цара Мікалая II аб жахлівым казнакрадстве і раскраданні з боку ваенных і грамадзянскіх уладаў. Карупцыя — родавая загана царскай бюракратыі. Але ў глушы Далёкага Усходу яна набыла асаблівы размах. Камандуючы Прыамурскай ваеннай акругай Павел-Сымон Унтэрбергер засяродзіў у сваіх руках велізарную і амаль бескантрольную ўладу. Унтэрбергер быў адначасова і генерал-губернатарам, і наказным атаманам мясцовага казацтва, і сенатарам, і чальцом Дзяржаўнага Савета



Мэры Язерская-Берг з дзецьмі — Паўлам, Агніяй і Наталляй

ад групы правых расійскіх нацыяналістаў. Сапраўды — «і цар, і бог, і воінскі начальнік»! Зразумела, што сумленны служака, якім быў Язерскі, хай і з баявымі ўзнагародамі ды бездакорнай службай, змагацца з такім мацёрым саноўнікам і яго клікай не даў рады. Вынікам рапарту на высокае імя стала адстаўка праўдалюбца. Праўда, ганаровая — з мундзірам, пенсіяй і фармулёўкай «па хатніх абставінах».

Але да карупцыі і генерал-лейтэнант Язерскі заставаўся не літасцівым не зважаючы ні на што. Яго старэйшы сын ад першага шлюбу Мікалай служыў у Ізмайлаўскім палку, але растрацііў казённыя грошы. А затым яшчэ і звязаўся з блізкім да царскага двара рэлігійным авантурнікам Рыгорам Распуціным. За гэта бацька пракляў яго.

### Майскі жук

Пры гэтым Сямён Іванавіч у традыцыях таго часу быў шматдзетным бацькам. Ад першага шлюбу ў генерала былі ўжо згаданы сын Мікалай і дачка. Затым ён ажаніўся другі раз з удавой капітана Генеральнага штаба Мэры Карлаўнай, народжанай Берг. Дзяўчына з нямецкага прыбалтыйскага роду з англійскімі і шведскімі каранямі, Мэры выйшла замуж за капітана Модэрава, але той памёр неўзабаве пасля вяселля ад запалення лёгкіх. З маладой удавой і звязаў сваё далейшае жыццё Сямён Іванавіч. У новым шлюбе ў іх нарадзіліся сын Павел, дачка Вера ды дочкі-блізняты Агнія і Наталля. Мэры была лютэранкай, але ўсе яе дзеці былі праваслаўнымі.

Павел Язерскі быў ахрышчаны ў царкве лейб-гвардыі егерскага палка, але «вернападданым» не стаў. Ён вучыўся ў гімназіі імя Карла Мая ў Пецярбургу. Гэтая школа была заснавана прагрэсіўнымі педагогамі, прапанаваўшы наўзамен палкавай дысцыпліны ўзаемную павагу і супрацоўніцтва вучняў і настаўнікаў у духу Яна Каменскага. У гімназію Мая прынцыпова не дапускаліся выкладчыкі-цемрашалы і чарнасоценцы. У гэтай адной з лепшых адукацыйных устаноў Расіі навучаліся дзеці з сямействаў Бенуа, Рымскіх-Корсакавых, Рэрыхаў, Сямёнавых-Цянь-Шанскіх і Дабуджынскіх. «Майскімі жукамі» былі і будучы акадэмік Дзмітрый Ліхачоў і пісьменнік Леў Успенскі.

У 1913 годзе Павел паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. З пачаткам Першай сусветнай вайны Язерскі падаў прашэнне аб залічэнні яго вольнавызначаным у войска, але потым вярнуўся на ўніверсітэт. Аднак у 1915 годзе ён перавёўся ў Мікалаеўскае інжынернае юнкерскае вучылішча. Пасля паскоранага выпуску прапаршчык Язерскі ў 1916 годзе выправіўся на Паўночна-Заходні фронт у Віцебскую губерню.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі Павел Язерскі ўступіў у РСДРП(б), быў абраны чальцом палкавога камітэта і прыняў імя Мікалая Білецкага. Працаваў у Наркамаце юстыцыі ў Петраградзе і Маскве. Але пакінуў ціхую службу сталічнага клерка і добраахвотнікам сышоў на фронт. Удзельнічаў у баях на Усходнім фронце і ўзяцці Казані. Пасля вызвалення Гомеля ад немцаў у студзені 1919 года вярнуўся на сваю «малую радзіму». Стаў галоўным рэдактарам «Вестак рэўкама Гомеля і павета». Пісаў яркія, запальныя артыкулы. Адзін з іх у сакавіку 1919 года быў прысвечаны пакараным камунарам Парыжа. У ім ён нібы прадказаў свой хуткі лёс.



Генерал Унтэнбергер



Генерал Скобелеў

Праз некалькі дзён у Гомель уварвалася 2-я Тульская брыгада, што падняла мяцеж на фронце. Пад праводырствам начальніка інтэнданцкай службы, сына тульскага купца Уладзіміра Стракапытава мяцежнікі абвясцілі ў Гомелі «Рускую народную рэспубліку» і распалілі ў горадзе вэрхал габрэйскіх пагромаў і рабаванняў. Білецкі-Язерскі да апошняга ўдзельнічаў у абароне гасцініцы «Савой». А ў палоне ў мяцежнікаў, перад тварам смерці, ён чытаў таварышам па камеры навуковыя лекцыі.

Паўла Язерскага-Білецкага, як і шэраг іншых арганізатараў абароны горада, стракапытаўцы па-зверску забілі пры адступленні з Гомеля ў ноч з 25 на 26 сакавіка 1919 года. Загінулых пахавалі на вуліцы, якую потым назвалі імем Білецкага. Сквер жа з іх магіламі першапачаткова насіў імя «25 Сакавіка».

**Што да самога генерала Сямёна Язерскага, то ў 1918 годзе ён з'ехаў з Петраграда. Прычынай ад'езду мог стаць і голад, і «чырвоны тэрор». Адстаўны генерал-лейтэнант Язерскі пасяліўся ў вёсцы Глухаўка Гомельскага павета ў сваякоў, дзе і памёр у 1921 годзе**

### Дырэктарка музея

На бок рэвалюцыі адразу ж перайшла і дачка генерала Агнія Язерская, курсістка-«бястужаўка» і студэнтка Жаночага медыцынскага інстытута ў Пецярбургу. Адразу пасля Лютаўскай рэвалюцыі Агнія і яе сястра-блізнятка Наталля паехалі ў складзе студэнцкай валанцёрскай дружыны ў вёску. Мужы сялянак усё яшчэ былі на фронце, і дзяўчыны-гараджанкі арганізавалі яслі і садок для сялянскіх дзяцей, выходзілі ў поле на праполку проса і канопляў.

Пры гэтым неўзабаве цяжкія матэрыяльныя праблемы накрылі генеральскую сям'ю. У канцы 1917 года пенсіі бацькі хапала толькі на 2 фунты хлеба. Сёстры кінулі вучобу і пайшлі працаваць у аптэчны склад грамадскай арганізацыі «Саюз гарадоў». Затым, як брат Павел, Агнія актыўна выступіла на баку новай рэвалюцыйнай улады. У 1919 годзе Агнія Язерская ўдзельнічала ў разгбраенні прыхільнікаў Юдзеніча ў Петраградзе (калі б яе бацька не з'ехаў у Гомель, ці не давялося б дачцэ арыштоўваць бацьку?).

Пры наступе «Паўночна-Заходняй арміі» белых на Петраград дзяўчына з санітарным атрадам адправілася на фронт. У 1920 годзе Агнія выйшла замуж і прыняла прозвішча Язерская-Бурле. Жыццё таксама нанесла ёй некалькі цяжкіх удараў. У 1921 годзе яна цяжка захварэла і доўга лячылася. У 1924 годзе ў Агніі памерла яе першае дзіця.

Былая дваранка на працягу доўгага часу працавала, як тады казалі, на «культурным фронце», загадвала рознымі клубамі і бібліятэкамі. Язерская-Бурле свабодна валодала нямецкай, ведала французскую, англійскую і фінскую мовы. У 1931 годзе яна стала дырэктарам Маскоўскай абласной бібліятэкі. А ў красавіку 1937 года па прадстаўленні Надзеі Крупскай была прызначаная першым дырэктарам Бібліятэкі-музея Маякоўскага. Шмат у чым дзякуючы ёй апошняя палюбоўніца паэта Вераніка Палонская напісала свае ўспаміны. А вось з Ліляй Брык у Агніі склаліся няпростыя адносіны. Брык падчас выступу ў музеі публічна выказала прэтэнзіі Язерскай за набыццё мемуараў, якія кампраметуюць гэтага «члена сям'і» Маякоўскага. Эксцэнтрычная прадстаўніца творчай багемы заявіла: «Уявіце сабе, Агнія Сямёнаўна, што я купіла ўспаміны, дзе сцвярджалася б, што вы — прастытутка?» Сама Агнія Язерская пакінула ўспаміны пра Мікалая Астроўскага і скульптара Веру Мухіну, якіх добра ведала.

Рэпрэсіі шчасліва абмінулі Язерскую-Бурле, дачку царскага генерала. Магчыма, з-за блізкасці да жонкі Уладзіміра Леніна? Хоць часам і сама Надзея Крупская, якая выступала супраць «сталінскага» тэрору на пленумах ЦК ВКП(б), вісела на валаску. Таксама малавядомы факт — яе бацька Канстанцін Крупскі, чалец нелегальнай афіцэрскай арганізацыі, быў звольнены са службы і аддадзены пад суд за дапамогу паўстанцам 1863 года.

Памерла Агнія Язерская ў 1970 годзе.

Што да самога генерала Сямёна Язерскага, то ў 1918 годзе ён з'ехаў з Петраграда. Прычынай ад'езду мог стаць і голад, і «чырвоны тэрор». Пасля шэрагу тэрарыстычных актаў ЧК увяло ў практыку ўзяцце закладнікаў з «буржуазнага» асяроддзя. Інстытут закладнікаў актыўна ўжываўся падчас Першай сусветнай вайны германскай арміяй у Бельгіі і Францыі, царскімі ўладамі — у Беларусі і Украіне. Адстаўны генерал-лейтэнант Язерскі пасяліўся ў вёсцы Глухаўка Гомельскага павета ў сваякоў, дзе і памёр у 1921 годзе. Яго жонка Мэры, народжаная Берг, памерла праз год.

### І іншыя Язерскія

Акрамя таго, у нашай найноўшай гісторыі адзначылася мноства іншых прадстаўнікоў роду Язерскіх.

Сцяпан Венядзіктавіч Язерскі ўдзельнічаў у студэнцкіх выступах 1869 года ў Пецярбургу. У рэвалюцыйным лагеры супрацьстаяў сумна знакамітаму Сяргею Нячаеву, прапаведніку крайняга радыкалізму, фанатызму і беспрынцыповасці. Быў высланы з Пецярбурга. Пасля арганізаваў у Магілёве малочную ферму, адначасова вёў сацыялістычную прапаганду сярод мясцовых навучэнцаў. З узростам стаў больш умераным, але працягваў лічыцца «нядобранадзейным». Сцяпана Язерскага неаднаразова абіралі гарадскім галавой Магілёва, але па існуючых у Расійскай імперыі правілах выбары зацвярджаліся губернатарам. Зразумела, Сцяпан Язерскі ні разу не быў узгоднены.

Яго родны брат Давід Язерскі ў маладосці таксама ўдзельнічаў у спробе арганізацыі ўцёкаў з турмы вядомага беларускага анархіста-народніка Сяргея Каваліка. А ў 1881 годзе ён арандаваў маёнтак Блонь, каб даць магчымасць яе ўладальніку Анатолю Бонч-Асмалоўскаму, вядомаму беларускаму дзеячу, цалкам прысвяціць сябе сацыялістычнаму руху. Маці Сцяпана і Давіда Язерская належала да роду Бонч-Асмалоўскіх і даводзілася Анатолю Восіпавічу стрыечнай бабуляй.

У снежні 1917 года Анатоль Бонч-Асмалоўскі, як адзін з самых старэйшых дэлегатаў, быў абраны чальцом Савета старэйшын Усебеларускага з'езда ў Мінску.

# У Мінску пройдзе патрыятычны метал-фэст

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Тых, хто любіць Радзіму, цэніць метал і не цураецца фолькy, запрашаюць на патрыятычны метал-фэст «Зважай! Крокам руш!», які адбудзецца ў клубе «Бругe» 21 сакавіка.**

Музычны фестываль «Зважай! Крокам руш!» ладзіцца ўжо чацвёрты год запар. Яго ідэя ў тым, каб паказаць альтэрнатыўную металічную музыку ў самых розных яе галінах на беларускай мове, распавядае арганізатар фэсту, лідар гурта Znich Алесь Таболіч.

— У нас мала кажуць пра беларускамоўную альтэрнатыўную музыку. У Беларусі ўвогуле няма прамоўцыі, яе робяць тыя, хто займаецца музыкай, так не павінна быць, — мяркуе арганізатар.

Гэта адбываецца таму, што прамоўтары зазвычай працуюць з «хадавымі» гуртамі, на якіх можна зарабіць, перакананы музыка. А альтэрнатыўная музыка ў гэты крытэр — прынамсі, у Беларусі — не ўпісваецца.

— Усе буйныя фестывалі ў свеце прасоўваюць свае гурты, беларуская ж альтэрнатыва знаходзіцца нібы ў нейкім загоне. Хаця ні для каго не сакрэт, што на замежных фэстах нашыя гурты выступаюць. Той жа «Стары Ольса» даў сотні канцэртаў у Злучаных Штатах, не кажучы пра еўрапейскія фестывалі. Ці Irdorath, якія выступаюць у Германіі, Нідэрландах, Іспаніі. Нашы прамоўтары ўсё гэта ведаюць, але нікога не прасоўваюць, аргументуючы гэта тым, што ў нас метал-сцэна непапулярная. Хаця на шведскі гурт Sabaton ужо амаль усе квіткі прададзеныя.

Алесь Таболіч зазначае, што фестываль «Зважай! Крокам руш!» ствараецца не на фундатарскія грошы. Ён робіцца за ідэю і ўласныя сродкі арганізатараў. Тое, што вылучае фэст з шэрагу іншых — выразная патрыятычная накіраванасць.




— З усімі гэтымі інтэграцыйнымі працэсамі паўстае пытанне, ці будзе ўвогуле існаваць беларуская дзяржава. Таму ў грамадстве павінен быць здаровы патрыятызм. І мы спрабуем узняць у беларусах гэты дух, — тлумачыць Алесь Таболіч.

У сёлетнім фэсце возьмуць удзел усяго тры гурты: гомельская каманда Krumkač, метал-фолькавы праект Znich & Rutvica і трэш-метал гурт AQUAMORTA. Але, па сутнасці, яны адыграюць тры паўнавартасныя сэты, адзначае арганізатар. Да таго ж два з іх — Krumkač і Znich & Rutvica — прэзентуюць свае альбомы.

— Znich & Rutvica прэзентуюць альбом «Рух сонца», будзем граць 1,5 гадзіны. З гэтай праграмай мы выступалі ў філармоніі, цяпер выдалі дыск. Яго канцэпцыя — архаічныя абрадавыя песні з розных рэгіёнаў Беларусі, яны звязаныя па коле раўнадзенства. Як сонца рухаецца па календары. У альбоме ёсць кампазіцыі і з музыкай, і традыцыйныя архаічныя спевы.

Першыя спробы спалучыць фольк з металам Znich рабіў напачатку 2000-х гадоў са спявачкай Наталляй Сухой (Валынец), але тады праект атрымаўся больш авангардным, стылізаваным. Тое ж, што атрымалася ў супрацы з Rutvica, — фактычна, чыстая архаіка. Удзельнікі праекта мараць пра тое, каб выйсці на еўрапейскія фестывалі. Але ўжо гэтым летам Znich & Rutvica будуць хэдлайнерамі на фэсце «Волынки мира» ў Маскве.




Дарэчы, для Znich эксперыменты з фолькам — не проста даніна модзе і цікавае гучанне. Алесь Таболіч некалі стаяў ля вытокаў Студэнцкага этнаграфічнага таварыства — арганізацыі, якая ўжо больш за 20 гадоў займаецца захаваннем беларускай традыцыйнай культуры. Сам неаднаразова ездзіў у экспедыцыі і вывучаў старажытныя камяні. Таму такі музычны сімбіёз з Rutvica — своеасаблівае вяртанне да каранёў.

Адна з галоўных праблемаў у беларускай культуры — традыцыйнай ці альтэрнатыўнай — нават не фінансаванне, а адсутнасць падтрымкі з боку дзяржавы і засілле з боку рускай папсы. Але і недзяржаўную падтрымку знайсці таксама няпроста. Па словах Алеся Таболіча, яго каманду прынцыпова не запрашаюць выступаць на пляцоўках кшталту «Мова-фэсту» і канцэрта да Дня Волі, хаця там, кажа музыка, яны б з задавальненнем выступілі.

# БагатаДата

**У гэтыя дні нарадзіліся Жарэс Алфёраў, Уладзімір Ухцінскі і беларуская Канстытуцыя. А вось Жыгімонту Кейстутавічу не пашчасціла. Што яшчэ цікавага адбылося ў гісторыі?**

## 14 сакавіка

**Міжнародны дзень рэк. Міжнароднае матэматычнае свята «дзень Пі».**

## 15 сакавіка

**Дзень Канстытуцыі ў Беларусі. Міжнародны дзень абароны правоў спажыўцоў.**

**1930.** У Віцебску нарадзіўся савецкі і расійскі вучоны, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па фізіцы Жарэс Алфёраў.

**1940.** У вёсцы Камуна Любанскага раёна на Міншчыне нарадзілася оперная спявачка Ірына Шыкунова. Выконвала партыі ў «Алесі» (Марфачка), «Сівой легендзе» (Ірына), «Яўгенію Анегіну» (Таццяна), «Іаланце» (уласна Іаланта), «Пікавай даме» (Ліза), «Доне Жуане» (Донна Ганна), «Вяселлі Фігара» (Графіня), «Гальке» (уласна Галька). Нядаўна, 6 сакавіка, спявачка пайшла з жыцця.

## 16 сакавіка

**1890.** У латвійскім Дынабургу (калісьці па-нашаму Дзвінску) нарадзіўся тэатральны рэжысёр, народны артыст СССР Саламон Міхоэлс. Быў забіты па загадзе Міністэрства дзяржаўнай бяспекі ў 1948 годзе ў Мінску, куды прыехаў для адбору спектакляў беларускіх тэатраў на прадстаўленне да Сталінскай прэміі.

## 17 сакавіка

**Сусветны дзень сацыяльнай работы.**

**1905.** У вёсцы Слізнёва Смаленскай вобласці Расіі нарадзіўся геолаг і эколаг Герасім Багамолаў. Намеснік міністра геалогіі СССР, дырэктар Інстытута геалагічных навук Акадэміі навук БССР. Ён быў адным з заснавальнікаў геалагічнай службы ў Савецкім Саюзе і першаадкрывальнікам мінскай мінеральнай вады.

## 18 сакавіка

**Дзень унутраных войскаў Беларусі.**

**1960.** У Якуціі ў Расіі нарадзіўся беларускі эстрадны спявак Уладзімір Ухцінскі. Пераехаў адтуль у Гомель з бацькамі ў 4-гадовым узросце. Быў гітарыстам у калектыве расійскага спевака Ігара Талькова, у гурце «Сябры», затым заняўся сольнай кар'ерай.

## 19 сакавіка

**1895.** У вёсцы Паляны Астравецкага раёна на Гродзешчыне нарадзіўся грамадска-палітычны і культурніцкі дзеяч Тамаш Грыб. Сябра Рады БНР (займаў пасады міністра земляробства і міністра ўнутраных спраў). Арыштоўваўся савецкімі і польскімі ўладамі. Грамадзянскі муж актрысы Паўліны Мядзёлкі, першай выканальніцы ролі Паўлінкі. Памёр у Празе, месца пахавання невядомае.




## 20 сакавіка

**Міжнародны дзень шчасця, астралогіі,** а таксама **франкафоніі.**

**1440.** У Троках (Тракаі) у выніку змовы быў забіты вялікі князь літоўскі Жыгімонт Кейстутавіч. Жыгімонт з прапольскімі магнатамі супрацьстаяў Свідрыгайлу з незалежніцкімі сіламі. Жыгімонт быў параноікам і паўсюль бачыў змову супраць сябе. І зацята выкрываў яе. У выніку змова з забойствам і здарылася.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №435

Падпісана да друку 13.03.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.